


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

8 ВЕРАСНЯ 2000г. № 36/4068 КОШТ 100 РУБ.


## ПІШУ, РАДУЮСЯ... І ЖЫВУ

**Старонкі з эсэ Віктара КАРАМАЗАВА пра мастака Антона БАРХАТКОВА**

**4, 10—11**

## ВОЛ ПАСЕЦЦА НА СТРАСЕ...

**Яўген РАГІН: "Застацца чалавекам" — збітая форма выжывання любой нацыі. Любой — толькі не беларускай. Украінец скрыгоча зубамі, каб назаўжды застацца ўкраінцам; рускі вылузваецца з сарочкі, каб лічыцца толькі рускім; іншае долі не шукаюць для сябе чэх з балгарынам... Беларус, напалохана падлашчваючыся, аддана зазірае суседзям у вочы..."**

**5**

## ЗАБІРАЕЦЦА ЧАС, ЗБІРАЮЦЦА ЗНАКІ...

**У рубрыцы "Крытыка" — Аляксей НЕНАДАВЕЦ рэцэнзуе кнігу Алеся РАЗАНАВА "Танец з вужакамі"**

**6—7**

## ПАКЛІКАНЫЯ

**Фрагмент рамана Валянціны КОЎТУН пра жыццё Еўфрасінні Полацкай**

**9, 12**

## ГОРКАЯ РАСПЛАТА

**Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ — пра кнігу Аляксандра АЛПЕЕВА "Мы — народ... XX век".**

**13**








На вуліцах, завулках і плошчах горада гучалі беларуская, ангельская, славацкая, польская, руская, украінская мовы, сярод гасцей былі члены дыпламатычных місій, акрэдытаваных у нашай краіне, пісьменнікі з блізкага і далёкага замежжа. На Рынкавай плошчы ўдзельнікаў свята віталі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны, віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава... Прысутныя змаглі пазнаёміцца з выставай кніг беларускіх выдавецтваў, узяць удзел у прэ-

# На зямлі Рагнеды і Ізяслава Кніжніка

Дзень беларускага пісьменства і друку, што прайшоў на зямлі Ізяслава Кніжніка — сына Рагнеды, у старажытным Заслаўі, ператварыўся ў сапраўдны фестываль беларускай прэсы і кнігі, адзначаны сёлета рознагалоссем моў і разнастайнасцю мерапрыемстваў, якія арганізаваны сумеснымі намаганнямі Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Мінскім аблвыканкамам і Заслаўскім гарвыканкамам. З самай раніцы пачалося святочнае богаслужэнне і хросны ход з Непагаснай Лампадай з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня, мастацка-гістарычнае прадстаўленне з удзелам вядучых акадэмічных калектываў і самадзейных артыстаў, у гарадскім парку разгарнуўся кірмаш народных рамёстваў, а побач віравалі "Дажынкі-2000".

зентацыі беларускіх часопісаў і газет. Вялікую цікавасць выклікалі выступленні Анатоля Вярцінскага, Раісы Баравіковай, Таісы Бондар, Леаніда Дранько-Майсюка, Валянціны Коўтун, Генадзя Пашкова, Уладзіміра Ліпскага, Алеся Пісьмянкова, Алеся Петрашкевіча, Уладзіміра Карызны, Браніслава Спрынчана, Навума Гальпяровіча, Яўгена Каршукова, маладых літаратараў, майстроў слова са Славакіі, Польшчы, Малдовы, Расіі, Украіны. Для самых маладых удзельнікаў свята была наладжана выстава дзіцячай і юнацкай кнігі пад дэвізам "Будучыня належыць дзецям", а таксама прэс-канферэнцыя "Беларусь — XXI стагоддзе" для юных журналістаў краіны. Завяршылася свята вялікім гала-канцэртам і каляровым феерверкам.



*Фота К. ДРОБАВА*



# КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні ў ААН пачаўся саміт тысячагоддзя — самая буйная сустрэча нацыянальных лідэраў у гісторыі чалавецтва. Лідэры дзяржаў павінны прыняць дэкларацыю, зноў пацвярджаючы непахіснасць нашых агульных каштоўнасцяў і вызначаючы мэты на бліжэйшыя 15-20 гадоў. 6 верасня прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў з трыбуны ААН. У гэты ж дзень ён правёў некалькі двухбаковых сустрэч з кіраўнікамі дзяржаў, якія прыбылі на Нью-Йоркскі саміт, прыняў удзел у пратакольных мерапрыемствах у рамках гэтай сустрэчы ў вярхах і позна ўвечары адбыў на радзіму. А саміт працягваецца і сёння...***

### КАМПАНІЯ ТЫДНЯ

4 верасня закончыўся этап вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Цяпер, паводле графіка выбарчай кампаніі, да 14 верасня ідзе рэгістрацыя будучых кандыдатаў у дэпутаты. Адначасова пачалася агітацыйная кампанія, якая скончыцца толькі 14 кастрычніка — напярэдадні дня галасавання. Найбольшую колькасць кандыдатаў у дэпутаты вылучыла Ліберальна-дэмакратычная партыя — 110 чалавек, Партыя камуністаў Беларуская — 75, Камуністычная партыя Беларусі — 61. Спісы астатніх партый выглядаюць больш сціпла: Рэспубліканская — 31 кандыдат, Аграрная — 26, Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды — 20, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці — 17, Беларуская патрыятычная партыя — 15. У выбарах будуць удзельнічаць асобныя члены АГП, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" і Партыі працы. Астатнія — байкатуюць.

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

Рашэнне Расіі выйсці з Бішкекскага пагаднення (яно прадугледжвае бязвізавы рэжым для краін СНД) — гэта не самы лепшы ўчынак у адносінах да Беларусі. Пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю журналістам 1 верасня пры наведванні Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. У выніку Беларусь цяпер знаходзіцца ў дваістым становішчы. Паводле слоў прэзідэнта, Расія "даўно аднавіла граніцы з нашай краінай, праўда, пакуль што эканамічныя".

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Яшчэ зусім нядаўна Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляла, што ў гэтым годзе колькасць насельніцтва нашай краіны істотна зменшыцца і складзе менш за 10 мільёнаў чалавек. Прагнозы, на жаль, збываюцца. Толькі за студзень—ліпень колькасць жыхароў Беларусі зменшылася больш чым на 19 тысяч. Такім чынам, даводзіцца канстатаваць, што па стане на 1 жніўня насельніцтва краіны ўшчыльную наблізілася да 10-мільённай адзнакі — перавышэнне гэтай рысы складала ўсяго каля 200 чалавек. Гэта было 1 жніўня, а сёння 8 верасня...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Зразумела, што няма чаго лічыць грошы ў чужой кішэні, але... Паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу, за мінулы ліпень сярэдняя налічаная зарплата па краіне ўзрасла на 3,5 працэнта і дасягнула 59,6 тысячы рублёў. Сума, здаецца, не такая ўжо і малая. Аднак жа гэта сярэдняя па краіне налічаная зарплата. А найбольш высокааплатнымі застаюцца работнікі банкаў — іх сярэдняя зарплата склала 114,9 тысячы рублёў. Амаль 97 тысяч рублёў атрымалі ў сярэднім работнікі сістэмы страхавання, 78,2 тысячы рублёў — кіравання, 76,5 тысячы рублёў — будаўніцтва, 73,8 тысячы рублёў — прамысловасці, 73,1 тысячы рублёў — навукі, 69,1 тысячы рублёў — транспарту, 68 тысяч рублёў — сувязі. Заробкі ў астатніх галінах народнай гаспадаркі нават меншыя за агульнарэспубліканскі ўзровень. Так, налічаная ліпеньская зарплата па жыллёва-камунальнай гаспадарцы адпавядала 57,2 тысячы рублёў, гандлі і грамадскім харчаванні — 53 тысячы рублёў, фізкультуры і спорце — 45,7 тысячы рублёў, ахове здароўя — 44,6 тысячы рублёў, адукацыі — 42,1 тысячы, мастацтве — 40,4 тысячы, культуры — 36,5 тысячы, сельскай гаспадарцы — 36,1 тысячы рублёў. Па лічбах няцяжка зразумець, каму ў нашай краіне жывецца добра, а хто канцы з канцамі ледзьве зводзіць...

### ПЕРАМОГА ТЫДНЯ

Фанаты беларускай зборнай па футболе нарэшце дачакаліся свята — нашы футбалісты пад кіраўніцтвам трэнера Эдуарда Малафеева выйгралі з лікам 2:1 у зборнай Уэльса. Гэта першая перамога беларускіх футбалістаў за апошнія чатыры гады ў такім афіцыйным турніры, як адборачныя матчы да чэмпіянату свету. Дай Бог перамагаць і далей!

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Міністэрства культуры Беларусі, Мінгарвыканкам, Саюзы мастакоў і архітэктараў абвясцілі конкурс на праект помніка (бюста або фігуры) кіраўніку Камуністычнай партыі Беларусі ў 1965—1980 гадах Пятру Машэраву. Устанавіць помнік плануецца на праспекце, што носіць ягонае імя ў Мінску, — або каля Палаца спорту, або каля крамы "Алеся".

### ЗАТРЫМАННЕ ТЫДНЯ

Супрацоўнікі Гомельскай абласной мытні затрымалі грамадзяніна Украіны, які спрабаваў без належных дакументаў правезці на тэрыторыю нашай краіны вялікую партыю бытавых венікаў. Пра гэта паведаміў "Інтэрфакс", дабавіўшы, што з 1998 года гэты ўкраінскі грамадзянін затрымліваецца ўжо шосты раз пры спробе кантрабанднага правозу венікаў. Як гаворыцца, смешна і грэшна...

### ВАНДАЛІЗМ ТЫДНЯ

2 чэрвеня ў мінскім Міхайлаўскім скверы была адкрыта скульптура "Басаногая дзяўчынка пад парасонам". Праз два месяцы вандалы ноччу зламалі скульптуру — на асфальце раніцай ляжала зламаная рука і парасон. Сумна...

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

Ці трэба верыць сіноптыкам пасля таго, як яны абяцалі гарачы жнівень? Адказ на гэтае пытанне, відаць, у кожнага чалавека свой. Бо некаму і 10 градусаў вышэй нуля — гэта гарачыня, а камусьці 30 малавата. Якім жа будзе верасень? Па прагнозах Беларускага гідраметцэнтра ў канцы гэтага тыдня начная тэмпература будзе трымацца ў межах 3-8 градусаў цяпла, а вось на тарфяніках Палесся магчымы невялікія замаразкі да 0 — мінус 2. Замаразкі не зачэпяць толькі Магілёўскую і Гомельскую вобласці. У суботу і нядзелю да нас завітаюць вільготныя вятры з мяккай Атлантыкі. Раніцай будуць назірацца шчыльныя туманы, удзень месцамі пройдуць дажджы. Удзень тэмпература на выхадныя будзе недзе каля 13—18 градусаў, уначы — 4—7 вышэй нуля. Пачынаючы з наступнага тыдня невялікія начныя замаразкі будуць назірацца па нашай краіне ўсё часцей. Не за гарамі і зіма...



ПАДЗЕЯ

# У гонар Францішка Багушэвіча

Сёлетні, 2000-ы год для Францішка Багушэвіча тройчы юбілейны — споўнілася 160 гадоў з дня яго нараджэння, 100 гадоў — з дня смерці і 115 — з часу з'яўлення першай публікацыі.

Аддаляючыся ў часе, асоба Францішка Багушэвіча набывае ўсё большы маштаб і асаблівую веліч. Сярод сваіх сучаснікаў, чыя грамадская актыўнасць засведчана ўдзелам у паўстанні 1863—1864 гг., ён вылучаецца не толькі мужнасцю і духоўнай цэласнасцю, але і ўсведамленнем сваёй беларускасці, прыналежнасці да роднага слова, якое было для яго сэнсам жыцця і творчасці.



5 верасня на будынку мінскай бібліятэкі N 14 імя Францішка Багушэвіча адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар паэта. Яна была створана скульптарам Аляксандрам Батвінёнкам і архітэктарам Юрыем Казаковым. Падчас урачыстасцяў перад прысутнымі выступілі в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, пісьменнікі Уладзімір Содаль і Уладзімір Мархель, а таксама выкладчык беларускай мовы і літаратуры педагагічнага каледжа Аляксандр Чэчат і загадчыца бібліятэкі N 14 імя Ф. Багушэвіча Валянціна Коршыкава.

Пасля ўрачыстага адкрыцця мемарыяльнай дошкі ў музычна-літаратурнай гасцёўні бібліятэкі адбылася вечарына, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Адкрыў яе Уладзімір Содаль. Перад прысутнымі выступілі пісьменнікі Віктар Шніп і Язэп Янушкевіч, а таксама мастак Мікола Купава і барды А. Галіч і А. Фралоў.

**Н. К.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Дзень ведаў у першую верасnёўскую раніцу па традыцыі быў прысвечаны святу беларускага пісьменства. Таму так шмат было ў школах і навучальных установах сталіцы гасцей-пісьменнікаў. Каледжы, ПТВ, сярэднія школы, Дом афіцэраў, дзіцячы парк імя Горкага наведалі першага верасня В. Іпатава, Н. Гальпяровіч, А. Вярцінскі, Р. Баравікова, А. Камароўскі, У. Карызна, Г. Далідовіч, А. Варановіч, В. Шніп, М. Чарняўскі, Я. Каршукоў, А. Камоцкі, М. Скобла, Л. Караічаў, П. Саковіч, У. Мазго і іншыя.

●

Шырока адзначылі ў Глыбокім 65-годдзе свайго земляка Тамаша Ляшонка. Гучалі вершы і песні на словы паэта ў выкананні самадзейных артыстаў, віншаванні мясцовых літаратараў — сяброў Полацка-Глыбоцкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення СБП Алеся Жыгунова, Віталя Гарановіча, Уладзіміра Сауліча, Лявона Неўдаха. З Мінска павіншаваць юбіляра прыехалі Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, Алесь Карлюкевіч.

●

Творчасці беларускага паэта Масея Сяднёва быў прысвечаны ўрок, які прайшоў у бібліятэцы СБП. Пра жыццёвы і творчы шлях нашага земляка, які жыве ў ЗША, гаварылі Вольга Іпатава, Лідзія Савік, Святлана Явар і іншыя. Гучалі вершы Масея Сяднёва.

**Н. К.**

# На радзіме Мележа, Макаёнка, Шамякіна

Гомельскі аблвыканкам зацвердзіў рабочы план па правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю з дня нараджэння слынных землякоў — народных пісьменнікаў Беларусі Андрэя Макаёнка і Івана Мележа. Землякі ганарацца імі, шануюць іх імёны і рыхтуюцца шырока адзначыць памятныя дні.

У вёсцы Журавічы Рагачоўскага раёна, на радзіме А. Макаёнка, будуць адрамантаваны Дом культуры, сярэдняя школа, у тым ліку і пакой музея вядомага драматурга, дзіцячы садок.

У дні святкавання юбілею ў Журавічах будзе адкрыты помнік-бюст А. Макаёнка.

Святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння Андрэя Ягоравіча Макаёнка, пройдуць не толькі ў Журавічах, але і ў Рагачове і Гомелі.

На радзіме Івана Мележа, у вёсцы Глінішчы Хойніцкага раёна, будзе праведзены рамонт Дома-музея народнага пісьменніка, на двары якога запланавана будаўніцтва летняй сцэны-эстрады...

Ужо амаль паўгода абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў і рэдакцыя газеты "Гомельская праўда" праводзяць літаратурны конкурс памяці І. Мележа, вынікі якога будуць падведзены напярэдадні юбілею песняра. На старонках газеты ўжо надрукавалі свае творы празаікі Міхась Даніленка, Уладзімір Гаўрыловіч, Юры Максіменка, паэты Віктар Ярац, Ізяслаў Катляроў, Соф'я Шах, Мікола Ждановіч, Мікола Старчанка, Ігар Журбін...

У студзені наступнага года, як вядома, спаўняецца 80 год яшчэ аднаму нашаму земляку — народнаму пісьменніку Івану Шамякіну. Жадаючы яму моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, землякі таксама рыхтуюцца адзначыць яго юбілей шырока — так, як і заслужыў гэты нястомны працаўнік на літаратурнай ніве.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў

***З 1989 года, раз у два гады, да свята працы — 1 Мая, прысуджаюцца прэміі Федэрацыі прафсаюзаў. За гэты час прысуджана 55 прэмій. Лаўрэатамі сталі 13 калектываў і 87 творцаў.***

У жніўні г.г. прынята рашэнне аб умовах прысуджэння прэмій за 2001 год. Іх будзе:

**шэсць прэмій** у галіне літаратуры і мастацтва, у тым ліку:

за творы прозы, паэзіі і драматургіі — дзве прэміі;

за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць — адна прэмія;

за работы ў галіне тэатральнага мастацтва — адна прэмія;

за работы ў галіне кінамастацтва — адна прэмія;

за творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва — адна прэмія;

**тры прэміі** за дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці, у тым ліку:

за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных — адна прэмія;

за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (для дзіцячага і дарослага калектываў) — дзве прэміі;

**адна прэмія** ў галіне журналістыкі.

На атрыманне прэміі прымаюцца творы і работы, апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя за апошнія чатыры гады, але не пазней, чым за 6 месяцаў да ўстаноўленага тэрміну вылучэння на прэмію. Не могуць быць прадстаўлены работы, якія адначасова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прэмій іншых дзяржаў, міжнародных прэмій, або якія ўжо атрымалі такія прэміі.

Колькасць спаборнікаў на атрыманне прэміі ў складзе калектыву аўтараў не павінна перавышаць 4 чалавек.

Вылучэнне работы на атрыманне прэміі праводзіцца працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, абласнымі аб'яднаннямі і рэспубліканскімі камітэтамі прафсаюзаў, органамі культуры, творчымі саюзамі і арганізацыямі, міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь.

Памер прэмій Федэрацыі прафсаюзаў 2001 года будзе ўстаноўлены пры прыняцці рашэння аб іх прысуджэнні ў красавіку 2001 года.

Дакументы на вылучэнне на прэмію прымаюцца да 15 снежня 2000 года камісіяй у Федэрацыі прафсаюзаў (220126, г. Мінск, пр. Машэрава, 21, пакой 804).

**Тэлефоны для даведак: 223-96-83, 223-95-83.**

СУСТРЭЧЫ

# Прэм'ер — у юных мастакоў

1 верасня адчынілі свае дзверы ўсе школы краіны. У тым ліку і не зусім звыклыя для нас навучальныя ўстановы — ліцэі, гімназіі, каледжы. Усё больш і больш сталеецца іх, што сведчыць пра наяўнасць у нашым грамадстве таленавітых дзяцей і тых, хто падтрымлівае развіццё іх таленту. Мінскі мастацкі ліцэй № 26 быў вядомы менавіта як такая творчая ўстанова. Некалі ён пачынаўся са школы з мастацкім ухілам. А з гэтага навучальнага года на базе ліцэя адчынілася унікальная навучальная ўстанова — Мінскі вучэбны комплекс гімназія-каледж мастацтваў. Апякуецца гімназіяй-каледжам адміністрацыя Цэнтральнага раёна горада Мінска, базавае прадпрыемства — ТАА "Беларускія шпалеры". Цяпер навучанне ў гімназіі-каледжы будзе мець тры ступені — прагімназія, гімназія і каледж, па сканчэнні якога навучэнцы атрымаюць дыпломы па спецыяльнасцях "дызайнер" альбо "мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва".

На адкрыццё навучальнага комплексу прыехаў прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын. Ён шмат гадоў, яшчэ займаючы пасаду кіраўніка раённай адміністрацыі, дапамагаў навучальнай установе юных мастакоў і сёння прагягвае сачыць за яе лёсам. Высокі госць паназіраў, як адбываецца конкурс плакатаў, прысвечаных тэме роднага горада, наведаў мастацкую галерэю і кабінеты па-новаму аздобленай, прыхарошанай школы, зайшоў на ўрок малявання да самых маленькіх вучняў гімназіі-каледжа мастацтваў — у падрыхтоўчы клас. Прэм'ер-міністр Беларусі адзначыў вялікую працу педагогаў гімназіі-каледжа па абнаўленні і ўдасканаленні навучальнага працэсу.

Думаецца, што ў недалёкім будучым творчая эліта нашай краіны папоўніцца выпускнікамі навучальнага комплексу гімназія-каледж мастацтваў, гэтак жа, як папаўнялася яна выпускнікамі мастацкага ліцэя, а да гэтага — мастацкай школы .

**Н. К.**

АНОНС

# "Ад кахання багоў..."

Сюрпрызамі поўніцца пачатак верасня. Кагосьці ён здзівіў раннімі першымі замаразкамі. Кагосьці — раннім абуджэннем канцэртнага жыцця ў сталічнай філармоніі: звычайна да кастрычніка тут ціха, сёлета ж, на працягу першага восеньскага тыдня, — аж два "густыя" на эмоцыі сімфанічныя вечары.

На імпрэзу 1-га верасня збіраў сваіх прыхільнікаў маэстра Аляксандр Анісімаў. Галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі спраўна сумяшчае музычнае кіраўніцтва новымі пастаноўкамі ў Мінску з падрыхтоўкай самастойных канцэртных выступленняў аркестра тэатра і з працаю за мяжой. Канцэртныя праграмы заўсёды адметныя жанравай разнастайнасцю, добрым густам і натхнёным выкананнем. А надзвычай вераснёўская яшчэ й інтрыгавала ўдзелам таленавітых маладых прадстаўнікоў дынастыі Анісімавых, найперш — сына Аляксандра, піяніста, парыжскага студэнта...

На другі вечар, сённяшні, збірае сваіх прыхільнікаў маэстра Генадзь Праватораў. Мастацкі кіраўнік Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі спраўна сумяшчае працу над партытурамі сусветна знаных майстроў з педагагічнай дзейнасцю ў Беларускай акадэміі музыкі і з выкананнем рыцарскага абавязку перад беларускай музычнай культурай у сваёй шматгаранней дырыжорскай дзейнасці. Канцэртныя сезоны Г. Праватарава заўсёды адметныя ўвагай да творчасці беларускіх кампазітараў.

Такім чынам, сёння, 8-га верасня, у праграме адкрыцця чарговага сезона Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі прадстаўлена, сярод іншага, і сучасная айчынная музыка — Пятая сімфонія Кіма Цесакова. Прэм'ера? Але ж твор нібыта ўжо знаёмы: датаваная 1995-м годам сімфонія запісана аркестрам Белтэлерадыё і захоўваецца ў музычнай фанатэцы. Пэўна, гучала, мо наваг неадноййчы, на стэрэахвалі... А вось публічна, у жывым філарманічным канцэрце, не выконвалася ніколі. Значыць — прэм'ера!

Кампазітар К. Цесакоў пазначыў гэты твор эпіграфам — радком з Гамеравай "Іліяды": "Ад кахання багоў нараджаюцца сусветы, ад кахання людзей нараджаецца чалавек". Своеасаблівую "музычную расшыфроўку" выслоўя антычнага мудраца можна знайсці ў Пятай сімфоніі, а яе можна знайсці ўжо не толькі ў радыёфанатэцы, але і ў праграме сённяшняга філарманічнага канцэрта, падрыхтаванага пад кіраўніцтвам Г. Праваторава — галоўнага дырыжора вядучага аркестра краіны.

**С. ВЕТКА**

*На здымку: прафесар Г. ПРАВАТОРАЎ.*

*Фота А. МАЦЮША*

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Ізяславу Кніжніку прысвечана

Гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе", Дзяржаўны камітэт па друку і Нацыянальная акадэмія навук арганізавалі і правялі другога верасня навуковую канферэнцыю, прысвечаную жыццю і дзейнасці Ізяслава Кніжніка — князя, сына Рагнеды, асветніка і слыннага грамадзяніна Беларусі.

У час канферэнцыі ў Заслаўі працавалі дзве секцыі пад старшынствам гісторыка А. Трусава і філосафа У. Агіевіча. Сярод выступоўцаў, якія аналізавалі духоўную спадчыну князя Ізяслава, — доктар гістарычных навук Г. Штыхаў, дырэктар гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе" А. Калбаска, супрацоўнікі Інстытута гісторыі і літаратуры НАН. У рабоце канферэнцыі прыняў удзел старшыня Дзяржкамітэта па друку РБ М. Падгайны.

**Пётр РУСАЎ,**
**гісторык**

АБСЯГІ

## МІНШЧЫНА...

### Прарок Адраджэння

Выстава "Янка Купала — прарок Адраджэння", прысвечаная Дню беларускага пісьменства і друку, прайшла 31 жніўня — 1 верасня ў сталічным кінатэатры "Змена". Выставу, даволі прыстойную і цікавую, падрыхтавала загадчыца навукова-асветніцкага аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы Людміла Давідоўская. Экспазіцыя закранула ўсе этапы творчасці волата беларускай літаратуры. Не абыдзеныя ўвагай і тыя, без каго б эпоха Купалы не была б такой яркай і значнай: браты Антон і Іван Луцкевічы, М. Гарэцкі, Я. Колас, К. Каганец, Цётка, К. Буйло... Дэманстраваўся ў "Змене" і фільм "Ніколі я не паміраў".

**Вольга АНЦІПЕНКА**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### На роднай мове

У кінатэатры "Кастрычнік" магілёўскае кінавідэапрадпрыемства "Позірк" плануе адкрыць яшчэ адну відэазалу. Яна будзе адрозніваецца ад існуючых. Менавіта тут будуць дэманстравацца кінастужкі і мульцікі, агучаныя па-беларуску.

### Першы прафесар геаграфіі

Нацыянальная бібліятэка РБ перадала Клічаўскаму краязнаўчаму музею набор кніг са сваіх фондаў. Самымі каштоўнымі з'яўляюцца кнігі першага беларускага прафесара геаграфіі Аркадзя Смоліча (родам з гэтых мясцін). Раней родныя Смоліча ахвяравалі музею асабістыя рэчы, дакументы і кнігі слаўтага земляка. Сярод іх — першае выданне "Геаграфіі Беларусі", выдадзенае ў 1919 годзе. Зараз жа музей атрымаў і другое выданне гэтага падручніка, напісанага Аркадзем Смолічам і надрукаванага ў 1922 годзе ў Вільні.

### Будзе пастаўлены мюзікл

Як паведаміла абласная газета "Магілёўская праўда", Міжнародны дабрачынны фонд фестывалю "Залаты шлягер" (які ўзначальвае дырэктар абласной філармоніі Уладзімір Браілоўскі) і Рэспубліканскі тэатр юнага гледача пачалі работу над дзіцячым спектаклем "Беласнежка і сем гномаў" кампазітара Эдуарда Калманоўскага. Плануецца, што "Беласнежка" будзе ўключана ў праграму шостага Міжнароднага фестывалю "Залаты шлягер".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Святая Еўфрасіння — на пляцы ў Полацку

У цэнтры Полацка пачаліся работы па ўзвядзенні помніка Еўфрасінні Полацкай. Бронзавая скульптура слаўтай асветніцы па праекце мінчаніна Уладзіміра Голубева зараз адліваецца на Мінскім трактарным заводзе. У зборы сродкаў на будаўніцтва помніка ўдзельнічаюць многія прадпрыемствы і арганізацыі не толькі Полацка, але і Віцебска, Мінска.

**Святлана ГУК**

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Жыве "Крыніца"

Па ініцыятыве аблвыканкама ў свет выйшаў настольны каляндар "Крыніца". Пры непасрэдным садзейнічанні старшыні аблвыканкама Мікалая Вайцянкова і старшыні абласнога Савета дэпутатаў Валерыя Сяліцкага каляндар аддрукаваны ў выдавецтве "Сож". На яго старонках адлюстравана гісторыя славянскіх народаў Беларусі, Украіны і Расіі. Аўтарамі артыкулаў з'явіліся вядомыя гомельскія журналісты Мікалай Ермакоў і Анатоль Рудчанка. У падрыхтоўцы выдання чынны ўдзел прынялі і святары.

### Пленэр у Неглюбцы

На праўленні абласной арганізацыі Саюза мастакоў прынята рашэнне правесці ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна пленэр. Неглюбка — своеасаблівы цэнтр народнага мастацтва, сваімі майстрамі і ткацкімі вырабамі славіцца ва ўсім свеце. Менавіта ў гэтую вёску і прыедуць жывапісцы, архітэктары, майстры народнай творчасці, пісьменнікі. Асноўная задача будучага пленэру — ушанаванне самабытнага краю, яго прыроды, традыцый і слаўных людзей.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Адна з "Чараўніц"

У абласным цэнтры прайшла выстава вышыўкі народнай майстрыхі Аляўціны Кавалеўскай. Сем год таленавітая жанчына ачольвае гурток "Чараўніца", які дзейнічае пры Дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі. На выставе былі прадстаўлены не толькі адмысловыя творы самой Кавалеўскай, але і яе выхаванцаў. Непаўторная вытанчанасць вышыўкі ўразіла ўсіх наведвальнікаў экспазіцыі.

### Запрашае "Залатая восень"

Гродзенскі аддзел культуры запрашае ўсіх на гарадскі кірмаш "Залатая восень",які запланавана правесці 23 верасня. Як і заўжды, наведвальнікаў (гараджан і гасцей Гродна) чакаюць разнастайныя гульні, конкурсы, выстава работ народных майстроў, канцэрты мастацкай самадзейнасці. Натуральна, арганізаваны будзе і кірмаш — гандаль самай рознай сельскагаспадарчай прадукцыяй.

**НАШ КАР.**

## БРЭСТЧЫНА...

### У Калеснікаўскім цэнтры

У Дзень свята беларускага пісьменства ў Калеснікаўскім цэнтры сабраліся студэнты, супрацоўнікі, выкладчыкі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, а таксама сталічныя госці: пісьменнікі Генадзь Пашкоў, Сцяпан Лаўшук, фотакарэспандэнт "Звязды" Яўген Пясецкі, археолаг Пятро Лысенка. На сустрэчы былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з берасцейскаю зямлёю. Гучала паэзія. Была прааналізавана дзейнасць беларускіх даследчыкаў Берасцейшчыны...

У гэты святочны дзень вырашылася і важнае практычнае пытанне: адкрылася абласная філія Беларускага саюза літаратурнамастацкіх крытыкаў. Яе старшынёй абраны прафесар, пісьменнік Мікола Мішчанчук.

**Уладзімір ТАРАСЮК**





## У памяць песняра

Свята гэтае ўжо звыклым стала для мінчан. Праходзіла раней у Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага, на тэрыторыі якога да Айчыннай вайны стаяў дом Якуба Коласа (згарэў на трэці дзень фашысцкай навалы). Пазней урачыстасць перанеслася на плошчу імя народнага песняра. Нядаўна тут распачалася рэканструкцыя (дый праводзіць падобныя мерапрыемствы ля падземных людных



пераходаў апошнім часам забараняецца). Таму свята зноў вярнулася на ранейшы пляц. Па-ранейшаму прымяркоўваецца да Дня ведаў.

Галоўная паркавая эстрада. Над сцэнай — партрэт песняра. Змаўкае музыка. Вядучая свята дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская пасля задушэўна праспяванай вакальным квартэтам "Святлана" песні "Мой родны кут" (гэта калектыў са Стаўбцоўшчыны) запрашае на сцэну выступоўцаў. А яны — сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, пісьменнікі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Раіса Баравікова, Генрых Далідовіч, коласава ўнучка Марыя Міцкевіч. Літаратары гавораць пра неўміручасць слова песняра, паэмы чытаюць і вершы. Сын Якуба Коласа прыгадвае радасныя дні маленства, якія прайшлі тут, яго дачка Марыя расказвае пра жыццё твораў славутага дзеда за мяжой.

Выступіў на свяце і малады паэт Зміцер Вішнёў. А чытальнік беларускай паэзіі, вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Язэп Гарэцкі пацешыў прысутных майстэрскім, непаўторным чытаннем "Дзядзькі-кухара" з "Новай зямлі".

Хараша завяршыў кампазіцыю паэт-бард Валерый Пазнякевіч.

**Кастусь СЦЕПАНЮК**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

## Аднаўленне традыцый

У Мінску адноўлена даўняя традыцыя чытанняў пад чыстым небам. Калі раней цяжар арганізацыі на сябе брала беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная Грамада", то зараз гэтым займаецца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Мерапрыемствы ўжо набылі сталую назву — "Літаратурныя сустрэчы". Іх арганізатары імкнуцца прытрымлівацца абранай формы.

Так, 5 верасня перад слухачамі выступіў калектыў газеты "Раніца". Як вядома, гэта старэйшае ў краіне беларускамоўнае выданне для дзяцей і падлеткаў (заснавана ў 1929 годзе). Паколькі сёння газета мае зусім невялічкі наклад, прадстаўнік рэдакцыі Уладзімір Пучынскі палічыў магчымым сумясціць прыемнае з карысным і паміж выступамі маладых літаратараў распавёў пра "ранічныя" рубрыкі і адказаў на пытанні прысутных. Больш за тое, было праведзена міні-апытанне на тэму "Самае папулярнае дзіцячае выданне", і "Раніца", вядома, перамагла.

Творчае супрацоўніцтва газеты з літаратурным аб'яднаннем "Маладзік" (Мінскі дзяржаўны педагагічны каледж N 1) не магло не зацікавіць навучэнцаў МДПК. Яны скарысталі зручны выпадак не толькі для таго, каб палюбавацца сваімі таленавітымі аднакурснікамі, але і ўскласці кветкі да помніка Янку Купалу.

Варта адзначыць, што менавіта прысутнасць вялікай групы навучэнцаў каледжа забяспечыла акцыі ТБМ адносны поспех. Усё гэта мае значэнне яшчэ і таму, што таварыства ў які ўжо раз паўтарае адны і тыя ж памылкі — мерапрыемствам амаль не папярэднічае рэклама ў СМІ. А таму, апроч "асабліва інфармаваных", вершы падлеткаў і беларускія песні слухалі выпадковыя людзі. Хоць, магчыма, цішыня, з якой праводзяцца сустрэчы насупраць цырка, абумоўлена асаблівасцямі нацыянальнага заканадаўства, што датычыць мітынгаў і шэсцяў. Аднак, нягледзячы на выкарыстанне выступоўцамі мегафона і прысутнасць харугвы ТБМ, міліцыянты толькі моўчкі назіралі за падзеяй.

Настрой не сапсавала нават халоднае восеньскае надвор'е і збольшага сумная тэматыка агучаных вершаў — першае каханне, лёс Радзімы, восень.

**Вадзім ДОЎНАР**

АСОБЫ

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Пішу, радуюся... і жыву

СТАРОНКІ З ЭСЭ ПРА МАСТАКА



Дождж малаціў усю ноч, супакоіўся адно пад раніцу, як пачынала днець, паналіваў лужын, бо халодная зямля позняе, з перадзімовым подыхам восені нават і глытка праглынуць не жадала — вада стаяла па дарогах, па сцежках, па злінялай пашы. Усё мокрае выглядала шэрым, халодным, непрыветным: возера, хаты на ўзгорку, неба над вёскаю ды возерам. Яшчэ і вецер даймаў да костачак, хоць і надзею даваў: можа, разгоніць шэры лямец на небе ці прарве ў ім дзірку для сонейка, каб хоць адзін прамень зямлю знайшоў, аблашчыў на ёй душу жывую. Антон Стафанавіч туліўся ў лёгкай, ветрам падшытай куртачцы, глыбей хаваў шыю ў настаўлены каўнер, пераступаў з нагі на нагу, грэючыся, і дрыжэў ад холаду. На плячы ён трымаў эцюднік, а ў руках — вялізнае белае палатно для будучага шэдэўра. Вецер бухаў у палатно, нібы ў бубен, ірваў з рук, і стары ледзь утрымліваў яго, прыціскаючы аберуч да каленяў. Перавёўшы позірк з неба на мяне, спытаў:

— Пойдзеш да лазенкі?

На гэтым беразе ў Васільках, крыху далей, як мы цяпер стаялі, я ўчора нагледзеў лазенку-векавушку з вышчарбленымі, нібы зубы ў бабулі, чашкамі, з латаным-пералатаным дахам і закураным акенцам. Выгляд лазенка мела ўбогі, ніжні вянец і дзверы паўрасталі ў зямлю, сама па сабе яна не магла прывабіць маё вока, але над ёю ўзвышаўся стары клён, можа, такога самага веку, як лазенка, і яго старасць глядзелася ў шыкоўнай красе ды сіле. Клён абгарнуў дамочак сонечна-жаўталістым цяплом, добрую ношку зачырванелага золата высыпаў на дах, жаўтлява-залаценькі вяночак накінуў на чорны комін, падаслаў, не шкадуючы, золатам вытканы дыван пад акенцам, дзвярыма, сценамі, нават і неба пазалаціў. І я далей не пайшоў — паставіў эцюднік ды ўзяўся пісаць няхітры пейзажык на невялічкай памерам кардонцы. Дзень пачынаўся, але ўжо прымушаў з трывогаю пазіраць на шэрае неба, і я спяшаўся схапіць на пэндзаль самае мне любае ў пейзажыку — багацце колераў і адценняў на збегу восені і зімы, апошняе цеплыні і першых халадоў. На кардонку ды палітру з неба скінулі першыя кроплі, пачало імжыць, і мы вярнуліся ў гасцініцу. Пасля вячэры ў пакой да мяне завітаў стары. Убачыўшы пачаты пейзажык з лазняю ды клёнам, ён сказаў, што, дапісваючы дома, я яго сапсую, трэба напісаць тут, на натуры. Ноччу ліў дождж, неба грымела, моцны вецер зрываў з дрэваў апошняе лісце, кідаў у мокрыя аконныя шыбы. Я ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і бачыў лазенку не ў золаце кляновага лісця, якою пісаў, а ў шэрым гніллі, клён бачыў не жоўта-чырвона-вохрыстым, а зямліста-бурым, голым, нібы галень. І калі раніцай, як дождж ды вецер аціхлі, мы зноў прыехалі на возера, трывога на душы гнала мяне да лазні ды клёна, гнала і якраз у тую хвіліну, калі мы з Антонам Стафанавічам стаялі каля аўтобуса, думаючы, у які бок падацца. Вялізнае палатно вяло яго зусім не ў той бок, куды вяла мяне мая кардонка, яго сцяжына ляжала ў процілеглы бок за Васількі, і я зняў з яго пляча эцюднік, павесіў на сваё плячо і адказаў:

— Пайду з вамі.

— Ідзі туды, куды вядзе душа, — сказаў ён, разумеючы мяне ў гэтую хвіліну не толькі як чалавек, але яшчэ і як мастак.

Мне трэба было знайсці слова, якое б пераканала яго, што, ідучы з ім, я не ахвярую сваім, бо ахвяры ён не прыняў бы, і слова, можа, адзінае, знайшлося:

— Лазенку я пісаў, як сонца стаяла над гарою, і цяпер пайду да яе, як яно стане на тое самае месца. Пазней, тыя самыя будуць святло і цені.

Ён мякка ўсміхнуўся, задаволены, і прамаўчаў.

Мы спусціліся ў зялёную, паміж хмызняку, лагчыну, падышлі да яшчэ адной лазенкі на беразе возера. Гэтая была амаль што новая і не мела таго, што мая, выразнажывапіснага твару, не было і таго клёна ці хоць бы якога іншага дрэва.

— Калі пішаш душою, трэба старацца работу давесці да канца, працаваць, пакуль не знойдзеш апошні мазочак, — казаў стары, ідучы, напэўна, жадаючы даць мне яшчэ адзін урок жывапісу.

— А як пазнаць яго, апошні?

— Ён табе сам скажа. Як знойдзеш, то далей і рабіць няма чаго. Лішні раз да палатна дакранешся пэндзлем — не прыбавіш, а ўбавіш, усё можаш сапсаваць. Апошні мазочак — самая высокая нота ў песні, адзін міг, а ў ім, бывае, уся радасць мастака.

Падышлі да апошняй у вёсцы хаты, прайшлі праз двор, засыпаны спелымі жаўтлява-ізумруднымі і аранжава-вохрыстымі гарбузамі. Я прыпыніўся, акінуў двор нераўнадушным вокам, падумаўшы, які каларытны нацюрморт — гарбузы пад плотам, на бярвенні, пад вокнамі, на ганку і нават на стрэхах хлява і хаты. Выйшлі на дарогу ў поле. Антон Стафанавіч спыніўся.

— Вось я і прыйшоў, — сказаў і пачаў ставіць эцюднік.

Краявід ад дарогі на возера быў цудоўны. Расхінутая ва ўсе бакі прастора вады і неба нагадвала нешта велічна-класічнае, можа, і левітанаўскае з крыжам у вечным спакоі. Тут не было ні цэркаўкі, ні крыжа, але на процілеглым беразе, па бярэзніках, стаялі светлыя, як блаславёныя Богам, хаты і паперадзе кожнай, каля самай вады, — лазенкі. Светла-вохрыстыя бярэзнікі не пакідалі берагоў і за хатамі-лазенкамі, разам з прасторай вады раствараліся ў далечы, патаналі ў блакітнай смузе, якая паэтычна яднала ваду з небам. Панарама безумоўна патрабавала вялікага палатна, і толькі цяпер я ацаніў дальнабачнасць ды мужнасць Антона Стафанавіча: палатно, большае за сябе, ён нёс хоць і цяжка, але тое, што трэба. Каб тут, на гары, не паваліў вецер, ён прывязаў яго да эцюдніка, але і эцюднік, каб не ўзляцеў у неба разам з ветразем-палатном, давялося мацаваць да зямлі. Я падаўся ніжэй да вады, але, нічога лепшага не знайшоўшы, вярнуўся назад.

— Станавіся побач, тут адной панарамы на ўвесь пленэр, — раздобрыўся Антон Стафанавіч. — Лепшага не знойдзеш.

Я агледзеўся. За хатаю, дваром з гарбузамі і хлевам ляжала свежая ралля, па якой плылі ад воблакаў лёгкія доўгія цені, і барозны, лусты тлустай зямлі, уся ралля адбівалі то сіні бляск, то колеры бэзу, каштанаў, тых самых гарбузоў. Барозны веерам збягаліся ў далечыні да купы бяроз у вохрыстых кашулях — там быў грудок магільны. Быў нейкі высокі сэнс у тым пейзажы — жыцця і смерці. І вось мы ўжо стаім спіною да спіны, працуем, ён — за сваім станком,я — за сваім, побач і адзін аднаго не бачым і не чуем. Хмары па небе плывуць, сонейка то ззяе, то хаваецца, бягуць па раллі цені, мяняюцца ўвесь час колеры, адценні, ты — паляўнічы, вока ўвесь час ловіць колер, кладзеш на палатно адзін, а другі просіцца, іншы блісне, як падмане, знікне, зноў ловіш. Як тут яго ўзяць — не памыліцца? І раптам — думка: як там стары? Азіраюся: стаіць, апусціўшы рукі, быццам і ён разгубіўся. Але вось — як электрычны ток праз мастака прайшоў: ажыў, захваляваўся, позірк заскакаў па ўсім пейзажы, і адразу пэндзаль пайшоў гуляць па палітры, ад фарбачкі да фарбачкі, з палітры — на палатно. Мастак ад палатна адхіснуўся, зірнуў на неба, на возера, на бярозкі — тон ці не тон? Зноў пэндзаль загуляў па палатне, па ўсім адразу: дзе неба, дзе зямля, у азёрных берагах, у бярозках — мазочкі раскідае. І зноў — крок-два назад: глядзіць у далячынь і ўжо — у мой бок? Адчуў, што я сачу за ім? Я — да сваё раллі. Яна гарыць ружовым бляскам — свая песня. Чую, як цяжка дыхае. Хто? Ён? Нібыта конь змораны воз валачэ ўгору. І зноў не чую, не бачу нічога, акрамя раллі. Бягуць па небе воблакі, бяжыць і час. Дзень бяжыць. І сонейка схавалася. Спыніўся пэндзаль — думка прачнулася чужая: каторы час? Глянуў на гадзіннічак: дзве без пяці? Божа, так хутка нікне дзень! У дзве абед у калгаснай сталоўцы — у аўтобусе чакаюць сябры-мастакі. Гляджу на Антона Стафанавіча: як сказаць, што трэба ехаць? Як спыніць натхненне? Не магу. Але і там — чакаюць? Ён мяне пачуў:

— Едзь без мяне, я не паеду.

Мне што рабіць? Ехаць ці не ехаць?

— Ты едзь, — кажа. — А я застануся. Бяжы, каб не чакалі.

*(Працяг на стар. 10-11)*

## "Цімох і Анюта"



Гэты зборнік апавяданняў слыннага празаіка Анатоля Кудраўца, выпушчаны выдавецтвам "Юнацтва", — першая яго кніга, адрасаваная дзецям. Хоць, калі быць дакладным, першая для малодшага школьнага ўзросту, бо ў 1979 годзе ў А. Кудраўца выходзіў зборнік прозы "На балоце скрыпелі драчы", які ў першую чаргу адрасаваўся дзецям сярэдняга ўзросту і старшакласнікам. Адметнасць жа новай кнігі ў тым, што ў ёй прадстаўлены арыгінальныя творы, напісаныя аўтарам у апошнія гады з разлікам менавіта на тых, хто толькі ўваходзіць у жыццё. Кніжка атрымалася невялікая ды і апавяданняў у ёй няшмат — усяго шэсць, але гэта яшчэ адно пацвярджэнне таго, што не колькасць вызначае якасць. Твораў няшмат, ды са старонак іх адкрываецца вялікі свет, да якога далучае хлопчыкаў і дзяўчынак пісьменнік.

Піша А. Кудравец, як і заўсёды, з глыбокім псіхалагізмам. Яго апавяданні вызначаюцца тонкай назіральнасцю над жыццём, а месцамі і дасціпным гумарам. Аўтар праўдзіва паказвае, як адбываецца паразуменне дзіцяці з навакольным светам, як адкрывае ён для сябе штодзённасць, а праз кантакты з тым, што знаходзіцца поруч, пашырае свой кругагляд. У кожным творы паўстае загадкавы і непаўторны свет маленства. Нават у тых апавяданнях, у якіх дзеці ці дарослыя, як на першы погляд, знаходзяцца на другім плане, бо гаворка ідзе пра "братоў нашых меншых". Як у апавяданні, што дало назву кнізе. "Цімох і Анюта" — гэта найперш аповед пра ката, з якім пасябравала дзяўчынка. А кот быў звычайны сіямскі, які "Анюце прынесла пад Новы год цётка Галя — тая, што жыве цераз дарогу, за каналам". "Доўга гадалі ў сям'і, як назваць яго, бо кожны, хто нарадзіўся на свет, павінен мець сваё імя. Перабралі, можа, з сотню іменаў — усё не тое. Бабуля нават прынесла даўні імянны слоўнік, прапаноўвала назваць Баніфацыям, а калі не — то Герадотам, але з ёю не пагадзіліся". Сышліся ў рэшце рэшт на прапанове дзядулі:

"— Цімох — гэта добра, — падтрымала дзядулю Анюта. — А пакуль ён малы, няхай будзе Ціма. Ціма, Цімачка, Цімуля, Цімошка, — ласкава гаварыла яна, гладзячы маленькае пушыстае кацянё".

Апавяданне — гэта прыгоды дасціпнага кацяняці, якое, падрастаючы, як і кожны, адкрывае для сябе таямніцы навакольнага свету. У розныя складаныя сітуацыі трапляе Цімох і з кожнай выходзіць пераможцам. Нават калі з-за цікаўнасці зваліўся з балкона дзевятага паверха, уратаваўся. Паляжаў некалькі дзён і акрыяў. Але А. Кудравец далёкі ад таго, каб, расказваючы пра ката Цімоха, падаваць усё толькі ў светлых фарбах. Жыццё ёсць жыццё. Часам у ім надараюцца і такія выпрабаванні, пасля якіх наўрад ці ўдаецца ўратавацца. Нешта падобнае адбылося і з героем гэтага апавядання. Сышоў Цімох з суседскай дачы, дзе яго пакінулі, паехаўшы адпачываць на поўдзень. Пайшоў і згубіўся. Анюта доўга плакала. Яна не магла паверыць, што яе любімага ката няма. Не верыць у гэта яна і цяпер. Ёй здаецца, што Цімох недзе ходзіць і шукае яе, як шукае яго яна, Анюта.

Харошае апавяданне атрымалася ў А. Кудраўца. І тая, бадай, галоўная думка, што пакладзена ў аснову твора, важная. Мы ў адказе за ўсё жывое на зямлі, асабліва, калі той, каго прыручылі, безабаронны.

Цікавая сітуацыя і ў апавяданні "Падарунак". Вавёрачка, якую прынеслі з леса, пасялілася ў кватэры, засябравала з хлопчыкам Іванам. А калі яна, падросшы, знікла, ён убачыў у рукаве паліто, якое даўно не апранаў, арэхі, цукеркі, сухарыкі, прыхаваныя вавёрачкай: "Ну і вавёрачка, ну і малайчына! — усклікнуў хлопчык. — Зрабіла мне падарунак". А яшчэ "надзеў Іван паліто, павярнуўся перад маці, — тая і рукамі ўсплёснула. На спіне, якраз насупраць рукава, у паліто была прагрызена круглая, велічынёю з яблык, дзірка. А за ёю, у рукаве, вата, саломінкі, ніткі — сапраўднае ўтульнае гняздзечка. Дык вось куды хавалася вавёрачка, дык вось чаму ніхто не мог яе знайсці!

Але гэта ўжо быў другі "падарунак".

Вавёрачка паспела выгадаваць у гэтым гняздзечку дзіцятка.

Шмат прынясуць радасці маленькім чытачам і апавяданні "Сустрэча", "Паядынак", "Ластаўкі бабы Паўліны", "Каштан".

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Забіраецца час, збіраюцца знакі...

Я добра памятаю, што першы паэтычны зборнік А. Разанава — "Шлях — 360" я прачытаў амаль дваццаць гадоў таму назад. Не думаў тады, што ў далейшым буду займацца міфалогіяй, якой была прасякнута кніжка — ужо тады пра паэта гаварылі як пра стваральніка філасофска-міфалагічнага накірунку ў беларускай паэзіі. На вялікі жаль, у тыя часы нацыянальная міфалогія яшчэ ўвогуле не разглядалася даследчыкамі. І таму першавобразнасць усяго роднага была схавана за смугою сівых стагоддзяў. Паэзія А. Разанава мне вельмі блізкая і зараз, бо ён асэнсоўвае і пераасэнсоўвае многае з таго, пра што даводзіцца пісаць і мне самому (буравецер, маланка-гром, дуб-дрэва, дрэва-лес, дабро-зло, смерць-жыццё, сцежка-дарога, парог-сцяна і г. д.). У філасофіі ці філасофскай паэзіі яны называюцца вобразамі-сімваламі, а ў навукоўцаў — міфалагемамі.

У наш час, калі міфы, здавалася б, больш-менш вывучаны, калі ніхто ўжо не памыляецца ў адрозненні паміж фантастычным і рэальным, на імгненне асвятляе чалавека (чытача) адчуваннем рэальнасці самых незвычайных падзей, дазваляе нам, няхай сабе ненадоўга, увайсці ў якасці жывых удзельнікаў у сам працэс узнікнення архетыпа-першавобраза і яго жыцця — у працэс, які нібы здзяйсняецца не ў нашай свядомасці, а ў самім Сусвеце. А. Разанаў да ўсяго гэтага пачаў набліжацца недзе ў 60-я гады, яшчэ ў сваіх вершах: "І кожны момант выпадковы, і выпадкова адкрыццё" ("Адкрыццё"); "Касматы, першабытны, нізкалобы, яшчэ не чалавек, упершыню ён аглядзеў — загадкавая спроба — дрымучымі вачамі вышыню" ("Чалавек"). Нават у нашых далёкіх прашчураў ужо прысутнічаў момант волі. Паэт ні на імгненне пра гэта не забываецца. Наадварот, імкнецца вярнуцца да першавытокаў, аглядзецца там, знайсці пацвярджэнне таму, што знаходзіцца на правільным шляху: "Я — рака. Цяку ад таго, дзе быў, кім не стаў... А яно даганяе мяне берагамі". А. Разанаву трэба дакапацца да ісціны, да існасці, інакш бы і ягоны герой, носьбіт тых першавобразаў, так і не зразумеў, навошта ён узнік. І таму вельмі лагічна гучыць разважанне-пытанне: "Са старажытнага бору насоўваецца змярканне. Ці — старажытнасць?" А. Разанаў слушна і, разам з тым, сцісла падкрэслівае: "Карэнне і лісцё. Бальшак жыцця зямнога. Цябе сустрэне Ўсё, а праўдзе Нічога". Жыццё значнае для любога з нас, нельга забывацца, што колькі б пра гэта ні спрачаліся і ні даказвалі, яно даецца чалавеку ўсяго адно, і пражыць яго трэба так, каб у канцы жыццёвага шляху цябе сустракала "Ўсё". Таму шчымліва, але выразна і зразумела гучаць радкі: "Сярод усіх вятроў адзін падарожны. Сярод усіх шляхоў адзін незваротны". У больш абагульненым плане супярэчыць гэтаму будзе наступнае сцверджанне: "Дарога дадому... Усе дарогі, якімі хадзіў і ездзіў, убірае дарога дадому". А ў філасофска-міфалагічным кантэксце — гэта не што іншае, як адвечная праблема жыцця і смерці. Нам здаецца, што паэт меў на мэце і яшчэ адзін аспект — той "незваротны шлях" усё роўна вядзе дадому. І гэта не што іншае, як аўтарская спроба яшчэ цясней звязаць гэтую і без таго ўжо ніколі непарыўную пару. І, відаць, аўтар паступае правільна. Проста ў адвечных пытаннях могуць быць самыя розныя адказы ці спробы іх.

Цікава прасачыць, як А. Разанаў, ідучы за міфалагічнай традыцыяй, асэнсоўвае паходжанне Сусвету-Зямлі, усяго жывога на ёй, як акцэнтуе ўвагу на тым, з чаго ўсё пачалося. На першы погляд, творы на гэтую тэматыку (вершы, пункціры, версэты, паэмы) могуць падацца простым адлюстраваннем прымітыўнага мыслення і далёкіх першапродкаў. Яно і на самай справе, жылі некалі людзі, блукалі ў пошуках ежы, палявалі, засыналі ля вогнішчаў; іх дзеянні, здавалася б, нічым асаблівым не матываваны. Аднак для нашых продкаў у гэтых дзеяннях быў схаваны глыбінны (ці нават глабальны) падтэкст. Паэт чуйна ўхапіўся за гэты аспект і здолеў дасягнуць у распрацоўцы яго вялікага поспеху. Ён запазычвае сюжэты не толькі з міфалогіі, але і з рэлігіі. Прычым, больш з язычніцкай, чым з хрысціянскай. Гэтага патрабуе зварот да найбольш старажытных пластоў духоўнай спадчыны беларусаў. Адна з паэм так і называецца "Гліна". З яе Бог стварыў чалавека, першую пáру, адсюль пайшло нараджэнне на Зямлі не толькі ўсяго жывога, але і Жыцця і Смерці таксама: "Ты (гліна. — **А. Н.**) у самым пачатку часу, Дзе Бог разрознівае-разасабляе Свае раўнаісныя іпастасі — Жыццё і Смерць".

А. Разанаў, пераўвасабляючы даўно ўжо вядомыя вобразы, сюжэты, матывы, спрабуе знайсці сваё, адметнае, а яно, найчасцей, хаваецца ў самым простым, дробязным, непрыкметным. І нават не таму, што было незаўважным, а проста таму, што на яго не звярталі ўвагі. Супастаўляючы і аналізуючы з'явы і прадметы, чалавек мінулага заканамерна прыходзіў да высновы, што калі свет існуе ў жорсткім унутраным супрацьборстве і тым не меней не гіне канчаткова, нават распадаючыся на састаўныя элементы, то, мабыць, ёсць нешта такое, што пастаянна ўтрымлівае яго ва ўстойлівай раўнавазе. Прыгадаем наступнае, "... каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць, усходзіла ў дзіравых чарапах, паволі распускаючыся лотаць" ("Паэма чырвоных вяровак"). Сапраўды, калі смерць не знішчае ўсё жывое (а, наадварот, атрымліваецца, што дае пачатак існаванню нейкай новай жывой істоты), сусветныя воды не перамагаюць агонь, а сонца не высушвае да рэшты жыватворную вільгаць, значыць, палярныя касмічныя пачаткі

---

*Алесь Разанаў. "Танец з вужакамі". "Мастацкая літаратура". Мн., 1999.*

# Апошні твор паэта

Пастаўленымі пытаннямі і спробай адказу на іх паэма "Эдэм" (1944) Змітрака Астапенкі відавочна выходзіць за межы перыяду свайго напісання. Гэтаму твору належыць асаблівае месца не толькі ў паэзіі ваеннай пары, але і ўвогуле ў беларускім прыгожым пісьменстве XX стагоддзя.

Па важных мастацкіх параметрах "Эдэм" З. Астапенкі тыпалагічна блізкі да героіка-рамантычнай паэмы Максіма Танка "Янук Сяліба" (1943). Маюцца на ўвазе патрыятызм, эпічнасць, разгорнутыя псіхалагічныя характарыстыкі герояў, выкарыстанне элементаў фальклору. У цэнтры абодвух твораў — лёс маладых людзей, якім па спрадвечных законах жыцця належыць будучыня. Аднак М. Танк у сваёй паэме, дзякуючы палярнасці вобразаў, цалкам унікае двухсэнсоўных сітуацый, што ўвогуле ўласціва героіка-рамантычным творам. Адзін бок тут прадстаўляюць Янук Сяліба, Раіна, іхнія родзічы, аднадумцы, а другі — староста Гарыдавец, асаднік Шарон, немец Курт. Так што роля кожнага героя паэмы ў сацыяльна-класавым канфлікце рэзка акрэсленая, дакладная. Складанейшыя псіхалагічныя калізіі паўстаюць у "Эдэме" З. Астапенкі.

Ужо сама біблейная назва твора, напісанага савецкім паэтам у ваенны час, сведчыць пра ідэйна-эстэтычную супярэчлівасць паэмы. "Эдэм (прыемнасць, сладасць) (Быц. 11, 8) — краіна ў Азіі, у якой самім Богам, — тлумачыць біблейская энцыклапедыя, — быў насаджаны Эдэмскі сад (Рай) для жыхарства першых людзей і якая знаходзілася на Усходзе. Гэтае слова ўвогуле ўжываецца таксама і для абазначэння ўсялякай мясцовасці, выключнай па сваёй прыгажосці і ўрадлівасці". Нібыта парадаксальна, што з Эдэмам параўноўвае ў марах шчаслівае жыццё як станоўчы герой паэмы Андрэй Саковіч ("Не дом, а як гэта завуць? — Эдэм, Наш земны рай, дзе шчасна ўсім жывецца"), так і адмоўны — Юхім Кашлаты ("Тут будзе — як гэта завуць? — Эдэм, Што значыць, — дзе добра ўсім жывецца").

Янук Сяліба і Андрэй Саковіч уяўляюць сабой створаныя энергічным, дынамічным стылем тыповыя вобразы патрыётаў, змагароў за вызваленне Айчыны. Яны блізкія нават сваёй біяграфіяй, перыпетыямі лёсу — абодва лідэры, камандзіры партызанскіх атрадаў, абодва трацяць каханых жонак. Знешнія стасункі даюць падставы і для аналогіі паміж старастамі Гарыдаўцом і Юхімам Кашлатым. Аднак атаясамліванню гэтых вобразаў супярэчыць сам тэкст "Эдэма", сама праўда жыцця, якая, магчыма, насуперак волі аўтара ўладна ўваходзіць у твор.

Трынаццаць гадоў не быў у родным сяле Юхім Кашлаты, змушаны падчас раскулачвання бацькоў уцячы з фальшываю даведкаю ў Тыфліс, каб уратавацца ад прымусовага жыцця ў сумна вядомых паўночных краях. Мабілізаваны ў армію з пачаткам вайны, Юхім дэзерціраваў, калі яго часць, адступаючы, аказалася ў ягоных родных мясцінах. Эпізодам вяртання ўцекача-выгнанніка якраз і пачынаецца паэма. Зразумела, нямала такіх Юхімаў вярталася на свае парушаныя сядзібы ў 41-ым годзе. На чым баку аказваліся яны, пакрыўджаныя, знявечаныя несправядлівасцю? Маштабы і метады калектывізацыі, не кажучы пра рэпрэсіі ў асяродку інтэлігенцыі, садзейнічалі росту недаверу, варожасці да краіны Саветаў, чым, натуральна, абумоўлівалася пэўная наяўнасць элементаў грамадзянскай вайны ў вайне Айчыннай.

Відавочна, паэма З. Астапенкі не адпавядала па некаторых сваіх ідэйных параметрах тагачасным канонам. Юхім вярнуўся дахаты і ў размове з сястрой Настай даводзіць ёй:

*Я жыць хачу і абрабляць зямлю —*
*Уласную, сваю, як можна болей!*
*Ты ведаеш, як я яе люблю —*
*Сваю зямлю, сваё навекі поле!*

У вусны адмоўнага героя ўкладзена жыццёвая філасофія працаўніка, ратая, на плячах якога спакон веку трымаецца свет.

Наста ў 30-ым годзе пасля раскулачвання бацькоў "пакінула свой інстытут":

*Прыехала. Але ўжо не было*
*Ні бацькі, ні багацця, ні Юхіма.*
*Сустрэла Насту воража сяло,*
*Яе ваколіца, яе радзіма.*

Наўрад ці паэт верны тут жыццёвай праўдзе, бо, згодна жорскім рэаліям таго часу, Насту мусілі б адправіць услед за бацькамі, калі яна ўжо добраахвотна не "згубілася" на бясконцых прасторах краіны Саветаў. Аднак у паэме Наста выходзіць замуж за калгаснага старшыню Андрэя Саковіча, працуе настаўніцай у школе і радуецца жыццю. Паэт не згадвае пра тое, ці здрыганулася калі ў яе сэрца па бацьках, браце, нібыта іх і не было ніколі. Зразумела, З. Астапенка быў змушаны да пэўных творчых кампрамісаў, каб самому ўтрымацца на плыву і ў чарговы раз не патрапіць у страшны вір гулагаў. Аднак адбывалася відавочная светапоглядная эвалюцыя літаратара: падаецца, што, напрыклад, ад тэксту З. Астапенкі "Еўропа слухала мой верш" (1932) да паэмы "Эдэм" пралегла не дванаццаць гадоў, а — цэлая эпоха. Тады, амаль напярэдадні свайго несправядлівага зняволення, паэт пагрозліва пісаў пра "суровага бізнесмена-банкіра", якому лірычны герой збіраўся адпомсціць "За край з-пад Ганга, з Самалі (...) За цяжкі хрып Шанхайскіх рыкш, За крэсы, край мой, над якім Ён звіў вянок хаўтурных дзён (...) Мной помсты дзень абвешчан быў Дзень грознай помсты, барацьбы". У гэты ж час набірала сілу, хуткасць жахлівая машына рэпрэсій, пад коламі якой наканавана было загінуць яшчэ да сусветнай сутычкі з фа-

маюць нешта агульнае паміж сабою, значыць, існуе нейкая універсальная першаасноўа быцця, з якой некалі ўзнікла ўсё існае і ў якое зноў усё вяртаецца ў адпаведныя часы. І хутчэй за ўсё, таму ў паэта не назіраецца адрозненняў "між дыялектыкай надвор'я і дыялектыкай душы". Толькі часам, нібы ў вялікай стоме, выдыхне: "Не спяшайцеся, кіламетры: я ж яшчэ не прайшоў гэты шлях душой".

Увогуле, паводле сцверджанняў самога А. Разанава, ён знаходзіцца ў своеасаблівай сітуацыі: "Я ў крузе, дзе слова шукае Слова, а чалавек — Чалавека" ("У крузе"), а творчасць ягоная — таксама нешта самабытнае, незвычайнае: "Аркуш паперы — аркуш жыцця: забіраецца час, збіраюцца знакі".

Зразумела, што дыялектыка архетыпа не зводзіцца да аднаго толькі прызнання глыбіннага адзінства ўсяго існага дзякуючы існаванню вечнай касмічнай субстанцыі, якая нараджае ўсе рэчы гэтага Сусвету. Міфалагічная логіка складаная, для знішчэння супрацьлегласцей у ёй А. Разанаў выкарыстоўвае разнастайныя спосабы і прыёмы. Не падлягае сумненню, што ў любым міфе, якім бы фантастычным ён ні быў, усе яго асобныя элементы — гэта заўсёды вобразы той рэчаіснасці, у якой ён нараджаўся. Імі могуць з'яўляцца Дрэвы, Лес, Хлеб, Малако, Зброя, Парог, Хмара і г. д. І дастаткова ў гэтым ланцужку-пераліку зняць хоць адно са звенняў, як адразу парушаецца ўся стройнасць сістэмы; "Дом знеслі. Застаўся сад. Як пастарэлі адразу дрэвы!"; або "Афарбавалі ў парку замшэлы валун — і памерлі стагоддзі". Калі разглядаць у плане глабальнасці, то зменена самая драбніца, але яна пацягнула за сабою змену многіх акалічнасцяў, уласцівасцяў, асацыяцый.

Не сакрэт, што архетып пазбаўлены нейкай прымусовай сілы, ён выкарыстоўваецца як свайго роду інфармацыйная сістэма ў практычным жыцці, у прыватнасці ў культах. Ва ўсялякім выпадку адна з асноўных традыцыйных мэт архетыпа ў яго сапраўдным, першапачатковым выглядзе — дапамагчы чалавеку ўключыцца ў жыццё Сусвету, навучыць людзей выкарыстоўваць сілы, народжаныя космасам, адкрыць ім шлях да боскага і вызначыць адвечны цыклічны рух іх жыцця, храналагічныя законы яго свету. Не адыходзіць ад гэтай традыцыі і А. Разанаў. Больш таго, некаторыя з архетыпаў-першавобразаў у яго ўзводзяцца ў ступень абсалюту. Напрыклад, парог, які можа асацыіравацца і з мяжою, бо менавіта, як здаецца, ад парога, паводле аўтарскай канцэпцыі, яна і пайшла:

***Калі мы са светам — мы супраць свету,***
***Калі мы з прыродай —***
***мы супраць прыроды.***
***Калі мы з родам — мы супраць роду.***
**("Парог")**

Ці можа паэт значна пашырыць значэнне нейкага архетыпа? Хочацца прывесці разважанні А. Разанава пра дуб — дрэва — лес. Яны ў яго пачынаюцца з міфічнай трыадзінасці: "З усіх дрэў дуб самы дужы, самы векавечны, самы даўні і самы будучы — ды ўвасабляе сабою трыяду часу: даўніну, цяперашчыну і будучыню і сваім існаваннем сцвярджае: быў, ёсць, буду" ("Дуб"). Прыгадаем верш "Дрэвы":

***Мо быў бы наш крок дарэмны***
***і ўсхліпам быццё сплыло,***
***калі б,***
***паміраючы,***
***дрэвы***
***не слалі сваё цяпло,***
***калі б не паілі нас ветрам***
***у душныя ночы і дні,***
***калі б не ішлі у нетры***
***шурпатыя іх карані.***

Або версэт "Дрэвы": "Дрэвы — страчаныя мае браты, дрэвы — страчаныя мае сёстры".

Дрэвы-лес паўсюдна знаходзяцца з паэтам, ён не ўяўляе сябе без іх нават на імгненне. І ў гэтым ёсць нешта ад язычніцтва: "Куды б ні ішоў — я вяду за сабою лес. Дзе б я ні быў — застаюся ў лесе" ("У лесе"). Ці не таму, што паводле старадаўняга беларускага павер'я, у лесе жылі душы памерлых продкаў? Болей таго, лес у А. Разанава здольны чуйна ўспрымаць усё тое, што адбываецца ў грамадстве, у душы лірычнага героя: "Мне ў лес блакітны не ўвайсці, калі ўвайсці — ўвайсці ў зялёны" ("Лес"). У вершы "Запавет" аўтар праводзіць паралель між шматвяковай гісторыяй свайго народа і лесам: "...тады выстойваюць падлескі, калі выстойваюць лясы". Для паэта лес — адзіны жывы арганізм, дзе нічога нельга парушаць, а ўсё неабходна захоўваць у першастворaным выглядзе: "У лесе ўсё пазрасталася і паспляталася: лісце, галіны, камлі, карэнне, зялёныя лёхі, — ледзь закранецца нешта адно, адгукнецца другое" ("Лес").

Здавалася б, такія паважныя адносіны да лесу і дрэў А. Разанава даюць нам усе падставы гаварыць пра тое, што адсюль, з лесу, маўляў, усё і пачалося. Аднак, выйшла наадварот:

***Як альшына мая — з-пад піл,***
***як вужака мая —***
***з-пад бота,***
***застагну,***
***упаду ў нахіл...***
***Напачатку было балота.***

І далей:

***Пераходзілі эры,***
***святло***
***пагасала,***
***і сутарэнні***
***нагрувашчваліся —***
***было:***
***першаіснасць... першатварэнне.***

Паэт пераканаўча пацвярджае гэта і паказвае, да чаго прывяла непрадуманая, "плана-сацыялістычная" меліярацыя: "Аблажыла балотны край экскаватарнае нашэсце". Ён упэўнены, што не прырода помсціць, а чалавек аплачвае, за кошт нашчадкаў, жывой прыроды, уласныя памылкі, а інакш і быць не магло, "на няўцямныя поспех і спех наклікаецца цямная помста" (паэма "Было балота").

Напрыканцы нашых разважанняў пра кнігу А. Разанава "Танец з вужакамі" хочацца падкрэсліць і тое, што нават сур'ёзны, як таго і патрабуе філасофская паэзія, аўтар па-майстэрску ўмее заўважыць і нешта смешнае, гарэзлівае: "...Ці ведаеш ты, капусная галава, колькі зайцоў каштуеш?", "Вуліцу заняло паважнае шэсце: ідуць з пашы каровы", "тут, як сафізмы — ваўчакі, баравікі — як парадоксы". Ды і само сцверджанне паэта: "Я маю права ўсё закрэсліць і потым нанава пачаць" — гучыць гарэзліва.

І яшчэ. Нібы падсумоўваючы свае думкі-разважанні, А. Разанаў запэўніў у вершаказе "Жменя":

***Жменя сее і жменя жне.***
***Жменя мне і жменя табе.***

Паэт дзеліцца тым, чаго дасягнуў, і адначасова запрашае да супрацоўніцтва ў галіне філасофскай паэзіі, пошуках новага асэнсавання спрадвечных архетыпаў, напаўненні іх зместу актуальным гучаннем.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ,**
**доктар філалагічных навук**

шызмам мноству нявінных, а часта лепшых, працавітых, здольных людзей...

Несумненна, паэт імкнуўся стварыць адмоўны вобраз здрадніка, і гэта яму ўдалося. У параўнанні з тым, як годна паводзіць сябе паўсюль Андрэй Саковіч, Юхім Кашлаты (чаго вартыя нават імя і прозвішча) часта выдае сябе за ніжэйшую асобу, неахайную, абмежаваную ўласніцкімі інстынктамі. Героі паэмы супрацьлеглыя, палярныя нават у сваім сне на рачным плёсе. Юхім апынуўся насупраць бацькоўскай хаты, аддзелены ад яго чыстай рачной плынню і гадамі выгнання:

***Ён спаў. Абуджаўся. І мармытаў.***
***І лезлі ў рот зялёнай плоймай мухі.***
***Ён спаў. І ў сне зубамі скрыгатаў,***
***І богу скардзіўся на злыбеды і мукі.***
***І ўсё адзін той самы сон страшны***
***Яго душыў і за жывое кратаў —***
***Вайна.. Усе здані-прывіды вайны,***
***І сковыт мін, і строкат аўтаматаў.***

У гэты ж дзень на той жа рачны плёс узышоў Андрэй Саковіч. І ён адпачывае пасля доўгай небяспечнай дарогі. Але ж насуперак задуме аўтара ў балючым сне адмоўнага персанажа адчуваецца перажытае гора ўсяго народа, а станоўчы герой нібыта і не зведаў горычы пакут, адступлення:

***Ён не стагнаў у сне, не мармытаў.***
***Яго не мучылі цяжкія дрвіны.***
***Ён проста спаў — салодка, моцна спаў,***
***Як спяць пры маці хлапчанём нявінным.***
***Над ім лазовы тонкі ліст трымцеў.***
***Яму нічога больш было не трэба.***
***І калі б ён цяпер што і хацеў,***
***Дык гэта лусту матчынага хлеба.***
***Ды жонкі косы ўзяць, расцалаваць***
***У вусны, у вочы — голасна і звонка.***

Андрэй страляў услед Юхіму, калі той надумаў кінуць войска. Між імі паўстала неадольная пространь. І пры першым зручным выпадку Юхім помсціць Андрэю, а адначасова і самому сабе. Ён даносіць немцам, што партызанскі камандзір прыйшоў да жонкі, і хату знянацку акружаюць. Цудам удаецца Андрэю вырвацца з пасткі, а параненая Наста аказваецца ў варожых засценках. Юхім жа сам заганяе сябе ў пастку: сястра памірае, бацькоўскую сядзібу з млынам прыбіраюць да сваіх рук немцы. Жыццё траціць для Юхіма ўсялякі сэнс.

Замест Эдэма — папялішча на падворку Кашлатых, а падпал учыніў сам Юхім. Свой земны шлях ён заканчвае як Юда, але дрэва ўтрымала цяжар яго цела, віны і няшчасця... Аднак ці пабудуе свой Эдэм і Андрэй, калі загінула Наста, не пакінуўшы па сабе "расткоў" ("Але няма расткоў яе, няма! Няма, і ўжо ніколі іх не будзе...") Раіна з паэмы М. Танка мела маленькага сына — суцяшэнне Януку, надзею на светлы працяг жыцця.

Катарсісны эфект у паэме З. Астапенкі дасягаецца нечаканым чынам. У апантанай барацьбе з рэлігіяй на ўсходняй Беларусі былі пазачыняны амаль усе цэрквы, рэпрэсаваны святары. З. Астапенка не мог не ведаць гэтага. Але ж паэт уводзіць у паэму вобраз дзівакаватага святара Макарыя, вясковага "вясёлага папа", які грае Брамса і Грыга ды ў захапленні ад "Лявоніхі". У вайну Макарый па-ранейшаму служыць у царкве, не трацячы веры ў перамогу над ворагам:

***Людзей збіраў Макарый да царквы***
***І там маліўся за яе — Расію...***
***Маліўся, бо нічога больш не ўмеў,***
***Бо ён не мог перарадзіцца занаў,***
***Укладваў у малітву той жа гнеў,***
***Што ўкладвалі у зброю партызаны.***
***З грамадкай вернікаў, як ён, старых,***
***Услых не называючы імёны,***
***Ён за яе маліўся і за іх —***
***За воінаў яе, байцоў чырвоных.***

Аднойчы святара паклікалі ў камендатуру і загадалі выступіць з праклёнам партызанам. На што Макарый годна адказаў: "Я не палітык, я — святар. Не блытайце палітыку і веру...". Дзіўна, але яго пакінулі ў спакоі, што ўвогуле супярэчыць рэальным фактам, бо непаслушэнства нямецкім уладам звычайна каштавала ў час вайны жыцця і святарам. Аднак З. Астапенка востра адчуваў патрэбу ў яшчэ адным плане, які б вывеў ягоную паэму з палону безвыходнасці, рассунуў межы трагічнага штодня, нагадаў аб існаванні вечных каштоўнасцей. Паэт, праўда, усё ж непаслядоўны ў разгортванні характару, паводзін айца Макарыя, бо, згодна хрысціянскім нормам, ён павінен быў бы паспавядаць Юхіма, калі той звярнуўся да яго па дапамогу. Макарый жа гоніць Юхіма:

***Узняўшы срэбны бліскавічны крыж,***
***Стаяў прад старастам айцец Макарый,***
***І столькі велічы было на твары***
***Ягоным грозным, што Юхім, як мыш,***
***Нырнуў у цемру і паміж ялін***
***Пабег, як звер бяжыць ад чалавека,***
***І бегла ўслед: "Ад сёння і навекі...***
***Будзь пракляты на век вякоў!.."***

Святар не мае права праклінаць чалавека, адмаўляць яму ў спробе ачышчэння душы, аднак іншы фінал паэмы вымагаў бы інакшага развіцця сюжэтных ліній, пераразмеркавання акцэнтаў, падыходаў. Між тым вобраз святара Макарыя і сама назва паэмы З. Астапенкі выяўляюць пэўную заканамернасць і дазваляюць гаварыць аб тыпалагічных сыходжаннях некаторых аспектаў "Эдэма" з паэмай А. Блока "Двенадцать" (1918). 12 чырвонаармейцаў, як 12 евангельскіх апосталаў, ідуць скрозь мяцеліцу вестунамі новага жыцця, новай ідэалогіі. І завяршаецца, узгадаем, гэты твор радкамі: "В белом венчике из роз — Впереди Исус Христос". Няпэўныя часы, калі шукаюць на што б абаперціся, мабыць, непазбежна нараджаюць зварот да вечных каштоўнасцей. У гэтым звароце — спроба зразумець, што ж адбываецца, намаганне пераадолець бязладдзе, вера ў справядлівасць падзей. І сам па сабе гэты зварот ёсць сведчанне менавіта свайго часу. "Эдэм" З. Астапенкі таксама яскрава адлюстроўвае ў сабе супярэчлівую рэчаіснасць другой сусветнай вайны, вынікае з тых сацыяльных умоў, калізій, што ёй папярэднічалі.

23 лютага 1933 года ў ліку іншых маладых пісьменнікаў З. Астапенка быў арыштаваны па беспадстаўным абвінавачванні. Асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі, на пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён збег з лагера на фронт. Паэма "Эдэм" сталася апошнім творам таленавітага паэта. У 1944 годзе З. Астапенка загінуў падчас баявых дзеянняў у Карпатах.

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

ДРУК

## "Губернатар" — новы раман Івана Шамякіна

А друкаваць гэты твор народнага пісьменніка Беларусі часопіс "Беларуская думка" пачаў у сёмым нумары. Раман — дакладна схоплены аўтарам зрэз сучаснага жыцця. І. Шамякін расказвае пра дзейнасць аднаго з кіраўнікоў вобласці, які быў выбраны на гэтую пасаду падчас альтэрнатыўных выбараў. У творы лёгка ўгадваюцца некаторыя рэаліі з цяперашняга палітычнага жыцця. І, як заўсёды, І. Шамякін застаецца майстрам дынамічнага сюжэта. У гэтым жа нумары "БД" можна пазнаёміцца з новымі вершамі В. Зуёнка, інтэрв'ю А. Вішнеўскага з генеральным дырэктарам "Белкнігі" А. Гурыновічам "І кніга вызначае свядомасць грамадства", словам А. Марціновіча пра жыццё і творчасць У. Дубоўкі "Чарадзей з душой юнака", аглядам З. Лысенкі "Тэатр, што жыццё, — не кожны дзень адкрыццё", шэрагам матэрыялаў, якія зместам сваім закранаюць шматлікія праблемы сучаснасці.

## "Роднае слова", N 7

Да 100-годдзя з дня нараджэння У. Дубоўкі прымеркавана публікацыя яго вершаў, аб'яднаных назвай "...Маё сэрца песнямі гаворыць...", артыкулаў І. Бубновіч "Роля Уладзіміра Дубоўкі ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы", В. Старычонак "Шукаючы, людзі знаходзяць і, робячы, бачаць удачу" (метафара ў творах У. Дубоўкі), Ю. Патапенкі "Параўнальны аналіз моўных сродкаў Уладзіміра Дубоўкі і Рыгора Барадуліна". Друкуюцца заканчэнне артыкулаў З. Санюка "Эстэтычная функцыя ідэалагічнага ў творчасці Янкі Купалы" і І. Навуменкі "Ранні Кузьма Чорны", артыкулы Т. Хоміч "Вытокі чалавечага жыцця" (вобразы зямлі, Радзімы, маці ў паэзіі А. Пысіна), Г. Сініла "Памры і адрадзіся!" (творчы шлях Ё.-В. Гётэ), Г. Крупкінай "Мастацкі космас Гётэўскага "Фаўста" і яго перастварэнне па-беларуску", П. Міхайлава "Назва айчыма і мачыхі ў беларускіх гаворках", І. Лепешава "Аналіз мовы на ўроках літаратуры", Э. Садаўнічага "Рэмініцэнцыі з рамана Аляксандра Пушкіна "Яўген Анегін" у паэме "Тарас на Парнасе", Р. Аладавай "Тарас на Парнасе": музычнае прачытанне". Пад рубрыкай "Нашы рупліўцы" пра В. Рабкевіча пішуць М. Мішчанчук ("Ён быў і будзе") і А. Каўрус ("З беларускага асяродку"). Пра знаходжанне Я. Купалы ў Яхімоўшчыне расказвае Ф. Ваданосава ("Гэта крык, што жыве Беларусь"). Часопіс адзначае 60-годдзе Н. Загорскай і Г. Тумаша, 120-годдзе з дня нараджэння Г. Леўчыка, публікуючы іх вершы. Да 70-годдзя У. Сакалоўскага слова пра яго прамаўляе У. Ляхоўскі ("Руплівы даследчык"). Тут жа змешчаны артыкул У. Сакалоўскага "Беларуска-нямецкае літаратурнае ўзаемадзеянне ў XX ст. "тэндэнцыі і кірункі". Пад рубрыкай "Слова і палітра" прапануецца артыкул І. Кухаравай "Няма нічога болей мастацкага, чым любіць людзей..." (мастацкі свет У. Дубоўкі і Ван Гога: спроба тыпалагічнага асэнсавання).

## "Шляхамі Зямлі Незнаёмай" —

такую назву носіць творчая экспедыцыя журналістаў дзвюх беларускіх газет — "Чырвонай змены" і "Звязды". А прымеркавана гэтая акцыя да 70-годдзя з дня нараджэння слыннага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, якое будзе адзначацца ў лістападзе 2000 года. Журналісты пабывалі ўжо ў Оршы і Гародні, прайшлі тымі сцежкамі, якімі хадзіў Караткевіч і героі яго твораў. Пра што і расказалі ў першых артыкулах з экспедыцыі на старонках "Чырвонай змены" і "Звязды". Наперадзе — вандроўкі ў Пінск, на Лунінеччыну, у іншыя караткевічаўскія мясціны Беларусі.

**Кастусь ХАДЫКА**





## "Здравствуйте, дети!"

Віктар Кудлачоў — чалавек драматычнага лёсу. Родам ён з вёскі Сласцёны Горацкага раёна. У 1944 годзе, калі беларуская зямля была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пайшоў у першы клас. Але правучыўся нядоўга. Летам 1945 года падарваўся на фашысцкай міне і страціў зрок. Вучобу давялося працягваць у Гродне, у спецыяльнай школе. Нягледзячы ні на што, В. Кудлачоў выстаяў, а ў 1972 годзе ў газеце "Гродненская правда" апублікаваў свае першыя вершы. З таго часу не развітаецца з літаратурай. А піша ў асноўным для дзяцей. Маленькім чытачам палюбіліся яго кнігі "Я расту", "Я сам..." ... І вось новая,



якая толькі што пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва". А паколькі В. Кудлачоў, як правіла, вядзе з хлопчыкамі і дзяўчынкамі зацікаўлены дыялог, і названа яна адпаведна: "Здравствуйте, дети!" Аўтар запрашае пазнаёміцца з новымі сваімі вершамі, загадкамі, скарагаворкамі, казкамі. А свайго роду запеўка да зборніка — верш "Рад я встретиться с тобой", маленькі герой якога прызнаецца ў любві да кнігі:

*Книгу новую беру*
*И счастливый говорю:*
*— Рад я встретиться с тобой,*
*Ты секрет раскроешь свой.*
*И расскажешь, что таится*
*Под обложкой на страницах.*
*Новой тайной увлечешь,*
*За собою поведешь.*

В. Кудлачоў ставіцца да сваіх чытачоў з даверам. І перш, чым перайсці да гаворкі аб тым, што хвалюе хлопчыкаў і дзяўчынак, крыху расказвае пра сябе. Верш "Был я маленьким когда-то", як і па сутнасці ўсе творы В. Кудлачова, сюжэтна просты. Ды і няма ў ім вобразна-выяўленчай насычанасці. Але такія творы дзецьмі лёгка запамінаюцца. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы дакладным рыфмам, калі ведаючы першае слова, няцяжка падабраць наступнае, якое б загучала суладна:

*Был я маленьким когда-то,*
*Вот таким, как вы, ребята!*
*Стать хотелось футболистом,*
*Моряком и трактористом.*
*Было множество идей —*
*Вырос — стал учить детей.*

А свет маленства, што паўстае ў кнізе В. Кудлачова, гэта тая паўсядзённасць, у якой знаходзяцца дзеці. Ды і самі яны нічым асаблівым не вызначаюцца. Як гэтая "чамучка" з верша "Девочка смеется":

*Кто это такой*
*Топает босой?*
*К дому по дорожке*
*Замелькали ножки.*
*Катенька ступает,*
*Что-то напевает.*
*С неба солнце льётся —*
*Девочка смеется.*

Але ў гэтым — свая паэзія. Паэзія шчаслівага маленства. Паэзія звычайнасці. Але як без яе было б сумна ў жыцці і наколькі б свет дзяцей стаў менш прывабным. Калі чытаеш вершы В. Кудлачова, пераконваешся, што аўтар іх валодае тым пачуццём дабрыні, якая выяўляецца, здавалася б, у самым маленькім. Менавіта ад гэтага творы яго напоўнены светам самога жыцця дзяцей. А тыя, пра каго паэт расказвае, імкнуцца зрабіць гэты свет малечы яшчэ больш прывабным, стараюцца не пакрыўдзіць хлопчыкаў і дзяўчынак. Як сабачка з верша "Жуля":

*Что ты, Жуля, громко лаешь?*
*Малышей до слёз пугаешь.*
*Что вы? Что вы? Не пугаю —*
*Я свой голос проверяю.*

Цікавымі атрымаліся і казкі, і скорагаворкі, а загадкі такія, што адказ знаходзіш у самім творы:

*Кто сказки любит и читает —*
*Надеюсь я, меня узнает.*
*Такая маленькая я —*
*На свете меньше нет меня.*
*Ни Верочка, ни Олечка —*
*Зовут меня... (Д ю й м о в о ч к а).*

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Юрка ГОЛУБ



# Свет у шкле каляровым

### Другая маладосць

*Калі нясцерпна і замглёна*
*Прыпадзе верад да душы,*
*Няхай туман, нібы заслону,*
*Разрэжуць фары на шашы.*

*Стаяць вільготныя ракіты.*
*Раса асвечвае бугор.*
*І шлях вячысты да рэліктаў*
*Вядзе цябе з юначых пор.*

*У беласнежжа і ў цвіценне*
*У моцы ўваскрасае дух,*
*Каб звягаў згорбленыя цені*
*Не лезлі грэцца пад кажух.*

*Ляціць метал на перагонах.*
*Карэнні з крэктам*
*рвуць асфальт.*
*А свет яшчэ з часоў прыгону*
*Чакае, небарака, свят.*

*Спіной адчуеш шэпт тапалін:*
*Куды ўсё гонішся, дзівак?*
*Тут свечча лес, пад жытам поле*
*І пацалункаў горкі смак.*

*Ды здатны ты для шчасця, мусіць,*
*Бы сорак год таму назад,*
*Калі жаробцы з Белай Русі*
*Падносіў хрумсткі рафінад.*

### Велагоншчык

*Пчала здранцвела над суквеццем.*
*Адкрыў шкаляр зайздросна рот.*
*А гоншчык кінуў зззаду вецер*
*І даў нырца за паварот.*

*Імчалі воблакі насустрач,*
*І набліжала мэту даль.*
*А сонца, што дзянёк прыручваў,*
*Было падобным на медаль.*

*І зашчымляла зубы стома.*
*Гудзелі ногі, нібы звон.*
*Ды неўзабаве будзем дома —*
*І вухне ўголас стадыён.*

*Ляцелі воклічы з-пад кручы,*
*А ён праз кожны абарот*
*Зямлю педалямі раскручваў,*
*Каб не пайшла наадварот.*

### Сказ пра каляровае шкло

Міколу ЛУК'ЯНАВУ

*Успамін пра вітраж*
*Не злізала карова.*
*А ляцеў на вятрах*
*Ён у шкле каляровым.*

*Тыя ў сіле вятры*
*Адхіляліся з ровам*
*Ад спакусных вітрын,*
*Што не ў шкле каляровым.*

*Уздымалася ўверх,*
*Як трава каля рову,*
*На высокі паверх*
*Сонца ў шкле каляровым.*

*І адразу ж за ім*
*Падымаліся бровы*
*У прадвесняў і зім*
*Перад шклом каляровым.*

*Вочы здзіў распрасцёр,*
*Падаў вобземлю ровар.*
*І палаў, як касцёр,*
*Свет у шкле каляровым.*

*І, відаць, не пры мне,*
*Не пабачу ўсё роўна,*
*Адаб'ецца прамень*
*Зноў у шкле каляровым.*

### Рэстаўрацыя

*Пад панцырам тынку*
*спачываюць*
*другой сусветнай*
*адмецыны.*
*Замест разбітых*
*устаўлены новыя шыбы*
*празрыстага кшталту.*
*Пафарбаваны*
*высокія дзверы,*
*праз якія ўнутр*
*заганяла дзікунства коней.*
*І больш за ўсё*
*зыркім бляскам*
*адорвае навакольную далеч*
*німб залаты*
*над званіцай.*

### Перад навальніцай

*З непакоем на неба*
*позірк узняла*
*касавіца.*
*Вецер*
*па пыльнай дарозе*
*кінуўся наўцёкі.*
*Птушчына гамана*
*пад крыло*
*засунула дзюбу.*
*Толькі громаадвод*
*да ўсяго абыякавы:*
*відаць, не здагадваецца,*
*небарака,*
*колькі скаргаў на яго*
*назапашана*
*ў шуфлядзе маланкі.*

### Запавет дыму

*Дымам сталі заснежаныя*
*гаі,*
*пакручастая трава*
*ў рыштоку,*
*рукапісы,*
*абмытыя расою слёз.*
*А цяпер увачавідкі*
*гарачь у каміне*
*яе лісты.*
*Ды няпраўда, што дым*
*зусім растае:*
*вунь яго запавет —*
*папялішча.*

Павел САКОВІЧ



### Дваццаты век

*Нібы скрыжаваў хтосьці дзіды,*
*штыкі —*
*У века XX-га сімвал такі.*
*З калючага дроту ўзўляецца плот...*
*О, колькі цярпеў мой гаротны народ!*

*Таму я маліўся і шчыра жадаў,*
*Канец зломy веку хутчэй каб настаў.*
*О, дай, калі можаш, нябесны Айцец,*
*Няшчаснаму веку шчаслівы канец.*

### Позняя восень

*Калодзеж глыбокі праз хмарны абшар*
*Прабіўся на небе. І ледзь праяснела,*
*Ў яго, як у вір самагубца, душа*
*Ратунку шукаць ад мяне паляцела...*

### Няўжо ізноў?..

*Нас зноў, бы статак, хуткім крокам*
*У нейкі новы гоняць "рай".*
*Нахабны крык стаіць навокал:*
*"Купі — прадай", "купі — прадай".*

*Іржа з'ядае серп і молат,*
*Гібеюць іх уладары.*
*Ледзь не бярэ за глотку голад...*
*Дык дзе ж вы ўсе, правадыры?*

*Куды ні сунься — я тут лішні.*
*Так і жыву — амаль на дне.*
*Хай падабраў бы ўжо Ўсявышні,*
*Бо гэты свет — не для мяне.*

*Ён жорсткі гэткі,*
*здзічэлы,*
*І мо не раз пральецца кроў...*
*Таму шапчу, пакуль нясмела:*
*"Рабы не мы... " Няўжо ізноў?*

### Крыжы

*Крыжы свае на магілкі прыносім,*
*І тут закончыўшы*
*грахоўны шлях,*
*Мы вечна ў Бога прабачэння просім,*
*А душы нашы стогнуць на крыжах...*

### Зіма

*Прамерзла душа аж да донца.*
*У студзеньскім стылым палоне.*
*На небе не вышукаць сонца —*
*Хаваецца, ззяблае, ў кроне...*

*Шалеюць у лютым завеі —*
*Канец быццам беламу свету,*
*Ды цепляцца ў сэрцы надзеі:*
*Калісьці ўсё скончыцца гэта.*

*Вятры захлынуцца ад злосці,*
*З-за хмары пакажацца поўня...*
*Адыдзе зіма, ды ў кагосьці*
*Пакіне свой іней на скронях.*

### Хлеб

*Наш хлеб святы і непадзельны,*
*На ўсіх адзіны, як паветра...*
*Хтось белы хлеб есць век суцэльны,*
*Мне ж на душы і з чорным светла.*

### На гарадской звалцы

*І ўдзень і ўначы горы смецця дымяць,*
*І чайкі тужліва крычаць над дымамі,*
*Нібыта ў іх душы людскія хрыпяць*
*І ў пекла паволі*
*сыходзяць кругамі...*

•

*Я люблю гэты час напрадвесні.*
*Кволы снег, ручаі і лядок.*
*Першы шпак заспявае свае песні,*
*Семкі бэзу клюе снегірок,*
*І вакацыі ўжо з паднябесся*
*Абвясціў жаўруковы званок.*

### Бамжы

*Бомж стаіць немалады,*
*Каля ног яго — сабакі.*
*Торба, пляшка з-пад вады —*
*Скарб няхітры небаракі.*

*Дварняку дам хлеб спярша:*
*Ён, здаецца,*
*больш няшчасны,*
*Мо ў яго мая душа*
*Пераселіцца... заўчасна.*

### Манна

*Крупы белыя ляцяць*
*З неба густа-густа.*
*Аж руку ахвота ўзняць,*
*Як за хлебнай лустай.*

*Можа, зноўку Бог нам даў*
*Той нябеснай манны?*
*На далоні снег растаў,*
*Як міраж падманны...*

•

*Яна не просіць есці, піць,*
*Аднак у кожнага бывае:*
*Душа то раптам забаліць,*
*То раптам заспявае.*

*Душа — чытаў*
*пра гэта штосьць —*
*Слабое цела пакідае...*
*Ў мяне ж сваё паняцце ёсць:*
*Жыву, пакуль душа —*
*жывая!*

**ПРОЗА**

*Прапанаваны чытачам штотыднёвіка фрагмент з новага рамана — толькі кароценькія старонкі, што сягаюць у такую блізкую нам даўніну і жыццё Тае, якая ўжо назаўсёды застанецца Святою Апякункаю цэлага народа. Народа Беларусі.*

**Юбілею хрысціянства прысвячаецца.**

Валянціна КОЎТУН

# ПАКЛІКАНЫЯ



## ФРАГМЕНТ З РАМАНА

У сваім вогненна-карычневым важкім плашчы вецер Хамсін наляцеў на Сяродземнае мора, як смерч. У берагавую заслону базальтавых скалаў з усяго маху ўдарыла грозная пясчаная лава і мора ад нечаканасці ўздрыгнула. Але ў той жа міг чорная, паднятая з самага дна махіна з грукатам абрынулася на крохкае рыбацкае жытло і тут жа, але ўжо з абломкамі дошак, патрушчанымі смоквамі і парванымі сецямі, зашыпела і спаўзла з берага назад, грозна ўдарыўшы ў такую ж шалёную сустрэчную сцяну. Агромністыя слупы спечанай гліны і шурпатай вапны віхрамі закружылі па ўсёй бязмежнай прасторы, нізка навіслае неба хлынула ў марскія правалы патокамі бруднага густога ліўня. І ўсе адразу зразумелі, што пачынаецца яшчэ нечуваны дасюль на ўсёй Галілеі страшны шторм. Хвалі разварочваліся дзевятым валам, вецер асмягла хапаў пенныя глыбы, са свістам укручваўся ў глыбокія, як ідумейскія ўпадзіны, марскія варонкі. Рэдкія караблі вокамгненна расшпурляла па ўсім уздыбленым міжзем'і, не пакідаючы людзям аніякіх надзей на ўратаванне. І вось ужо ніхто не заўважыў, як мінуў дзень і пачаўся другі. Мора змяшалася з берагам. Але калі Маці Божая ў гэтую грозную раніцу азірнула землі, на якіх ніколі не ачахнуць сляды Яе Сына, і позірк крануўся жорсткай марской стыхіі, то змеціла Яна, як пасярод няшчаднага шторму на тонкай ніціне паміж жыццём і смерцю ажно ўздрыгвае і трашчыць па ўсіх швах, але ўсё яшчэ трымаецца вялікая кесараўская каравэла з Канстанцінопаля, якую то высока падкідвала, тузаючы і шпурляючы ў розныя бакі, то зноў апускала ўніз, як шчэпку. У штармавым грукаце патаналі і каманды боцмана, і матроскія крыкі, і адчайныя завыванні хананейскіх жрацоў Ваала ў ніжніх каютах. Але праз несціханы свіст ветру ўчула Апякунка і ціхія словы малітвы, што ўзляталі над марскім пеклам белымі чайкамі. Гэта маліліся, расцягваючы акруглыя славянскія гукі, пакліканыя з таго далёкага крывіцкага краю, дзе і сёння ў сечы братазабойчай лілася кроў і так мала яшчэ душаў навярнулася да Збаўцы. Д'ябальскі шабас, што смуроднымі клубкамі і енкам ляцеў у неба з іх паганскіх капішчаў, быў такі ж грымучы, як і гэты марскі шторм. Але пазнала Маці і вылучыла з усяго сусветнага галасу мальбы той, якую даўно ўжо змеціла, і да чыіх ранаў аднойчы ўжо прыкладася сваімі персцямі...

“...Ойча наш, Сэрцазнаўца, адзіны ў Святой Тройцы... ачысці нас, няўдзячных рабоў Тваіх, збаў ад усялякіх брыдотаў, плоцкіх і душэўных, і асвяці Прасвятым Тваім Духам, калі, адышоўшы ад імглы нячыстых прывідаў, спадобімся чыстым сумленнем адверсці грэшныя вусны і ўславіць Усесвятое Імя Тваё...”

Грозны паўднёвы вецер Хамсін падаў на хвалі, тузаючы каравэлу ўсё мацней, чайкі крычалі жаласлівей. Але толькі на трэці дзень, калі праз увесь шалёны шторм раптам праляцеў востры, як ятаган, струмень з Пярэяў, успароўшы чорную завесу хмар, неба над морам нібыта закрываніла і нарэшце, крыху пагрукваючы магутнымі плячамі, расхінулася... Тады два анёлы-ахоўнікі няўзнак паўсталі ў бляску яркага прамення, пратрубілі ў свае звонкія салодкагалосыя горны; паўсюль наступіла цішыня і запеніла толькі лёгкае пер'е серабрыстых воблакаў зыркага рання... Тады ўсе загойданыя штормам да паўсмерці, і бывалыя марскія ваўкі, і маладзенькія юнгі, і ацалелыя пасажыры з Канстанцінопаля, як бы апрытомнелі, адчуўшы Боскую літасць, падняліся наверх і нарэшце ўбачылі на палубе гэтых паніклых галавой паломнікаў з Полацка.

У сваіх вялізных мокрых хламідах і глыбока насунутых на вочы каптурах усе пяцёра — такія надзіва белалікія і светлавалосыя — кленчылі, моцна трымаючыся за канаты ўздоўж палубы, і, не звяртаючы ні на каго ўвагі, маліліся. Шторм блізу берагоў Галілеі сапраўды супакойваўся. Капітан ужо вызначыў, куды іх урэшце прыбіла. І хоць гэта была не Газа, а далекаватая ад Ерусаліма Акра, суцяшала тое, што піратаў і падводных рыфаў тут амаль не сустракалася. Цёмныя марскія воды яшчэ выкідвалі са свае глыбіні сярэбраныя чародкі лятучых рыб, але гарызонт рабіўся празрыстым, праменне над трымтлівымі хвалямі — лагодна-зыркім, мора спакойным. Паўсюль узнікалі абрысы ацалелых караблёў; і вось ужо цэлы караван галеонаў у суправаджэнні белых птушак і гордых спічастых скалаў спусціў катвагі каля берагоў доўгачаканай гавані.

Бераг імгненна запоўніўся мясцовым людам.

Тады ўсіх, хто выйшаў з гэтага жудаснага шторму жывым і прыбыў да Святой Зямлі, Галілея сустрэла як пакутнікаў — ласкавым праменнем і затоена радасным вецярком. Паветра ставала густым, над лазурнае вадою падымаліся ледзь бачныя змейкі трымтлівага марыва, бераг быў завалены гарой абломкаў і зялёнай рудаватай цінаю... Едка пахла свежаю рыбай і марской цвіллю. Каравэла нарэшце стомлена заціхла і апусціла трап. І першымі на прыстань сышлі воіны і гандляры, потым, за імі, — тыя самыя пяцёра. У сваіх доўгіх шырачэзных паломніцкіх хламідах яны няўклюдна, адно за адным, сыходзілі на камяністую зямлю ўслед за немаладой, сярэдняга росту нетарпкай манашкай у чорным, якая рукой прытрымлівала на грудзях свой прыгожа аздоблены сапфірамі крыж на важкаватым срэбраным ланцужку. Цёмныя бровы манашкі, яе гнутка акрэсленыя, строга складзеныя і сціснутыя вусны і ўсё яшчэ не абпаленая сонцам бледнае аблічча затворніцы было зацемнена выступаючым наперад паўкругам каптура. Вялікія цёмныя вочы пазіралі з адкрытым спакоем, не выдаючы аніякага здзіўлення ці страху, і цяжка было зразумець, што ўсё ж прыцягвае хоць якую яе ўвагу ў гэтым марскім порце. Не зразумець было і таго, што папраўдзе тоіцца ў глыбіні лагоднага і ўжо вельмі сталага, мудрага позірку паломніцы. Такой па-нябеснаму светлалікай, усё яшчэ прыгожай і ў сталым веку, але як бы адсутнай, чужой нават уласнаму характару. Позірк яе ў рэдкія імгненні насцярожваўся, быў чэпкі і калючы. Прыгледзеўшыся, наўкруг вачэй паломніцы можна было змеціць маршчыны, якія выдавалі перажытыя пакуты і ўжо доўгае і даволі клопатнае жыццё. За манашкай на бераг сышлі астатнія — дзве жанчыны, адна з якіх была зусім маладая, плячысты юнак і паважны сівабароды манах. Але яны так нізка апускалі на аблічча свае цёмныя глыбокія каптуры, што сярод усёй гэтай групкі ўвагу прыцягваў адно смуглатвары, але з блакітнымі вачамі і русымі кучаравымі валасамі праваднік-тлумач. Ахоўваючы падарожнікаў і паказваючы ім дарогу, ён ішоў крыху папераздзе, прытрымліваючы рукою кароткую, крывую шаблю. Паломнікі так рэзка выдзяляліся сярод мясцовых жыхароў сваёй важкай няўклюднай вопраткай і нязвыклымі паводзінамі, што адразу ж трапілі ў акружэнне жабракоў і, ратуючыся ад крыклівых мянялаў, пачалі шукаць хоць якое зацененае месца для адпачынку. Яны яшчэ моцна хісталіся пры хадзе, нібыта пад нагамі быў не камяністы бераг Галілеі, а разгайданая доўгім штормам палуба. Старэйшая, якая ішла першая, раптам ціхенька ўскрыкнула — ледзь не каля самых яе ног праслізнула невялікая пясчаная змейка, але тут жа спаўзла ў каменную крушню каля сцяны. Астатнія крыху спалохана азіраліся, аглушаныя крыкам і стракатасцю тлумнай прыстані, што служыла адначасна рынкам і была цяпер перапоўнена падарожнікамі і гандлярамі. Асабліва нахабна паводзілі сябе зазывалы-егіпцяне з глінянымі фігуркамі жукоў-скарабееў у руках, стаялі тут і насупленыя пастухі-качэўнікі ў гімацыях, іх прыслужнікі ў белых накідках, рабы ў грубай апратцы з вярблюджага воласу, і абвеяныя таямнічасцю паляўнічыя з жоўта-рудымі плямістымі звярынымі шкурамі на плячах, і жанчыны без пэўнага занятку. Ад неміласэрнага сонца ўсіх гэтых да чарнаты апаленых пустыняю людзей ратавалі найбольш доўгія шалі-талісы паверх шапачак, абвязаных наўкруг лоба баваўнянымі пасамі. І чым вышэй падымалася сонца, тым весялей бегалі, шнуруючы натоўп, гарластыя падлеткі з пучкамі пахучай травы і хлябамі. Ішоў бойкі гандаль. Быццам і не было ніякага шторму, і не праходзілі праз прыстань, б'ючы сябе кулакамі ў грудзі, надрыўныя плакальшчыцы з абсыпанымі попелам галовамі. Густабародыя і доўгавалосыя, з сівымі касічкамі качэўнікі басавіта прапаноўвалі пакупнікам маладых ахвярных баранчыкаў, і адусюль чулася здаўленае бляянне. Каля прасторных лазовых клетак з птушкамі на высокіх латках паблісквалі бронзавыя падносы з вінаграднымі гронкамі, фінікамі і віном у тонкіх, з доўгімі шыйкамі жбанах, і іх уладальнікі ўвесь час імкнуліся перакрычаць адзін аднаго. Высахлыя да абцягнутых карычневай скураю касцей хананеі: “...О, магутная маці Ашэра, злітуйся!..” — выкрыквалі то просьбы, то праклёны, нахабна хапаючы за крысо ці рукаво кожнага, хто праходзіў міма. Асобным радам размяшчаліся крамкі з хецкімі залатымі ўпрыгожаннямі, сірыйскім шоўкам і сувоямі грубай, з казінай поўсці, тканіны для шатроў. Над стракатым крыклівым гандлёвым юрам ледзь бачна клубілася воблачка лёгкага пылу.

Усё гэта абрынулася на паломнікаў так нечакана, што яны ажно застылі, асляпленыя і аглушаныя шумнай стракатасцю галілейскага рынку і нязвыкла сліпучым сонцам. Адно Асан, пасланы з паломнікамі самім імператарам, быў спакойны і, не зважаючы на штурханіну натоўпу, адразу ж наняў памагатых і заняўся цюком з рэчамі. Напытваў і ціхі прытулак нанач, але Акра была перапоўнена цэлай арміяй валацужных рабаўнікоў, ад якіх цяжка было схавацца. Зрэшты, найлепей было скарыстаць параду патрыярха Лукі і звярнуцца па дапамогу да дзеваў шпіталя святой Алены. Да таго ж, часу ў пасланніка было мала: як мага хутчэй, памяняўшы на караблі парваныя ветразі, Асан мусіў вяртацца праз Салонікі да свайго імператара ў балгарскія землі, дзе ў самы першы сакавіцкі дзень, толькі пачаўшы свой паход на ўграў, Мануіл Комнін сустрэў гэтых гасцей з Полацка. З таго самага далёкага горада, адкуль пачынаўся род мацеры-імператрыцы, што паходзіла з дому вядомага і ў Візантыі Усяслава Чарадзея. Само Полацкае Княства залатымі ніцямі лучыла арабскі Халіфат і хазараў з краем славян і нават з суровай скандынаўскаю зямлёю...

Сустрэча з полацкімі паломнікамі была сапраўдным цудам. Ашаломлены імператар, дзівячыся незвычайнай праяве Боскай волі, ветліва прыняў ігуменню Еўфрасінню ў сваім вялікім, акружаным двума радамі ахоўнікаў, паходным шатры. Доўга слухаў яе, ухвальна пагаджаўся з міралюбнымі развагамі сваёй сваячкі-манашкі, аднак затрымаць паход не мог і пры развітанні перадаў палачан апецы вернага і надзейнага слугі Асана. Без асаблівых прыгодаў Асан правадзіў падапечных спачатку да святых мошчаў на Лімнас, потым, ужо ў Канстанцінопалі, апекаваўся паломнікамі ў Ілахернскай царкве і нават святой Ай-Сафіі, дзе дапамог Еўфрасінні набыць святыя дары для Ерусаліма. Нарэшце снарадзіў карабель ў Святую Зямлю. Сын турка і паланянкі з берагоў Дняпра, ён добра разумеў мову палачан і быў адначасна праваднікам і тлумачом.

Тут, у Галілеі, Асан адразу ж напытаў, чый караван ідзе ў бок Ерусаліма, потым купіў там для сваіх падарожнікаў надзейныя месца і без цяжкасцяў набыў у дарогу патрэбныя рэчы, добры харч і бурдзюкі з вадою, адразу ж адправіўшы іх да старэйшыны каравана. Паломнікі ўжо крыху звыкліся з берагавым гармідарам і нават абышлі ўвесь рынак, аднак наперадзе чакала даўкая галілейская ноч і трэба было спяшацца: манастыр святой Алены знаходзіўся ажно ў дзесяці мілях ад Акры. Асан наняў павозку і ўсе з радасцю паселі на дошках, прыкрытых вярблюджаю коўдраю, заўсміхаліся, яшчэ не ведаючы, якая цяжкая камяністая дарога наперадзе. Але так хацелася паспець да надыходу цемры. Галілея моўчкі прыглядвалася да гэтых дзіўных пакліканых, кратала іх беласкурыя аблічча пальцамі мяккага вечаровага прамення, казытала павевамі ветрыку, зазірала ў вочы цёмнымі зрэнкамі невысокіх скалаў, што брылі ўслед за імі ўздоўж дарогі. Стракатаю бліскавіцай перад павозкаю часам слізгаў змяіны пасак, але ніхто яго, акрамя Асана, не заўважаў. Высока ў небе над паломнікамі паўставаў нерухомы нябесны купал і толькі ружаватае воблака трымала на нябачнай ніточцы раскрыленага птаха, які то ўзмываў уверх, то зноў спускаўся павольнымі кругамі ўніз, нібыта сачыў за гэтай адзінокай сярод камяністай пустыні павозкай. Вецер ані дыхаў. Галілея суцішвалася.

Нарэшце дарога стала мякчэйшаю і паломнікі нават задрамалі. Толькі самая старэйшая, ігумення Еўфрасіння, седзячы назадзе павозкі, не магла нават прыплюшчыць павекі і сачыла то за купкамі серабрыстых смакоўніц удалечыні, то за адзінокім птахам, што ўсё яшчэ кружыў пад ружавата-крышталёвым нябесным парасонам, то за трывожным грувасткім статкам шэрых скалаў уздоўж дарогі, пазначанай калючымі церневымі кустамі. Слухала шоргат колаў: “Шша-шу... шах...” Але ўсё часцей і часцей, падстаўляючы твар вечароваму лагоднаму ветрыку, яна азіралася... Быццам хацела ўбачыць праз рэдзенькі пыл гэтай дарогі па Святой Зямлі нешта такое, аб чым, здавалася, ужо даўно забыла, што ўжо даўно, здавалася, адышло ў нябыт... Але ж...

Божа, Сэрцазнаўца... Адзіны ў Святой Тройцы, дазволь... І пусці кола памяці праз жыццёвы круг, калі ўжо той завяршаецца. Зашаптала: “...бо ўжо гатова сэрца маё...” Мякка пагойдваючы яе даўкія думкі, павозка шаргатліва: “...шшу-шах...” адольвала пустынны галілейскі шлях. Але манашка нават не змыкала павекаў і ўсё трывожна азіралася і азіралася...

Як толькі галава кранулася мяккай лісцвянай падушкі, Еўфрасіння задаволена парухала знямелымі ад стомы нагамі. Яна толькі што асвяжылася халаднаватай вадою, добра выцерлася шорсткім ручніком і з прыемнасцю адчула, што нарэшце сапраўды можна крыху адпачыць. Тады з асалодаю выпрасталася на тонкай цыноўцы, разасланай проста на глінянай падлозе келлі. Памяць перад сном вяртала то полацкія малюнкі, то жахлівыя згадкі пра шторм. З якой радасцю тады ўсе яны, адчуўшы, што гойданка слабее, падняліся з каюты наверх. І хаця хвалі яшчэ бушавалі, усе засталіся на палубе пасярод моцнай, яшчэ неўтаймаванай калатнечы: перад вачамі то ўзнікалі, то зноў ляцелі ўніз цэлыя статкі касматых дзіваў з пачварнымі клыкамі і рожкамі над кучаравай пенаю. Вушы закладала ад рэзкага посвісту ветру; у бруднай каламуці раз-пораз успыхвалі, па-блазенску падміргваючы, чырвоныя вочкі пасланцоў апраметнай. Тады манашка тулілася да пляча дужага княжыча Давіда, пазірала на засяроджаную ўкленчаную поруч Еўпраксію. Шторм не хацеў адступаць. Здавалася, смерць была ўжо так блізка. Але цяпер, сярэдначы, у гэтым ціхім галілейскім прытулку ўсё згадвалася крыху інакш. Недзе зусім побач спалі яе замучаныя дарогай палачане, якім пасля сціплага абеду адразу ж паказалі памяшканне для адпачынку. Саму Еўфрасінню запрасіла да сябе старэйшая дзева...

Праз дрымоту згадак, прыслухаўшыся, яна ўлавіла тонкі перазвон вельмі блізкіх да зямлі зорак, у прапахлай цяплом і пажухлымі травамі келлі блымаў тонкі агеньчык свяцільніка. Каля цыноўкі на круглым століку, засланым шырокім вінаградным лісцем, стаяла піяла з малаком і ляжала некалькі фінікаў. Але яна стомлена прыплюшчыла вочы, стараючыся пазбавіцца ад успамінаў.

*(Працяг на стар. 12)*

## Ён такім і быў...



Напрыканцы жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы былі прадстаўлены афорты, літаграфіі, графіка беларускага мастака Л. Марчанкі. Гэта ўжо не першая выстава, якую праводзяць супрацоўнікі бібліятэкі. Выставачная зала існуе 4 гады і паказваюць тут творы не толькі беларускіх мастакоў, а таксама іх калег з Галандыі, Германіі, Швецыі. Выстаўляліся тут і скульптары, майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Жонка Леаніда Марчанкі паклала пачатак збіранню калекцыі твораў мастакоў, але менавіта графікаў, бо яны маюць непасрэднае дачыненне да кнігі. Ніна Паўлаўна падаравала пяць афортаў свайго мужа, таму што ведае, — яны зберагуцца ў бібліятэцы для нашчадкаў на стагоддзі. На выставе былі паказаны работы з серыі "Мой край азёрны", зробленыя ў розныя гады жыцця мастака і напоўненыя любоўю да роднага краю. У простых на першы погляд матывах афортаў Леанід Марчанка па-майстэрску



перадаў мяккасць, паэтычнасць беларускай прыроды, яе прыгажосць. Своеасаблівую прыроду Якуціі мастак накідаў вугалем і алоўкам падчас паездкі ў 1973 годзе на будоўлю Байкала-Амурскай магістралі. Талент мастака праявіўся ў розных галінах выяўленчага мастацтва, але найбольш поўна і ярка ён прадстаўлены ў афорце, акварэлі, у малюнку алоўкам.

Мастаку пашчасціла — ён пры жыцці быў прызнаны першым афарцістам Беларусі. Яго творы неаднаразова атрымлівалі ўзнагароды, многія закуплены і захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі і выставачным аб'яднанні "Цэнтральны дом мастака" ў Маскве, Музеі сучаснага мастацтва ў Кёльне, прыватных калекцыях у ЗША, Даніі, Польшчы, у пасольстве Беларусі ў Францыі. Выстава падарожнічае па гарадах Беларусі і знаёміць гледачоў з творчасцю мастака. Але нельга не аддаць павагу Ніне Паўлаўне Марчанцы, якая шмат сіл і энергіі прыкладае для таго, каб як мага больш людзей пазнаёміліся з творамі Леаніда Марчанкі.

На выставе ёсць кніга водгукаў. Самыя цёплыя і ўдзячныя словы можна прачытаць у ёй. "Дзякуй сям'і мастака і гэтаму храму, якія далі магчымасць падсумаваць і парадавацца ля высокае красы...", Якая прыгожая выстаўка! Ён такім і быў — шчыры і адкрыты (Мастак Леанід Панамарэнка).

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымках: "Глыбокае", афорт, 1995 г.; "Возера Чаросава". З серыі "Зямля і людзі", афорт, 1980 г.*

# Пішу, радуюся... і жыву

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4)*

Каб не чакалі? І я бягу.

Вяртаюся праз нейкую гадзіну. Сыты, але разгублены: учора лазенку не дапісаў, сёння — раллю не дапішу. А што стары? Стаю з талеркамі ў руках, трымаю прывезены яму абед, гляджу на яго палатно — дых займае, прастора, глыбіня, нішто, здаецца, у той прасторы ды глыбіні, якія перад ім, у прыродзе, не ўпусціў, усё заўважыў, схапіў дакладна, пераліў у квадрат палатна, усім бярозкам, хаткам, лазенкам знайшоў месца, возеру, яго прасторы, даў волю, усё — на адным дыханні. Палатно вялізнае, а ўжо ўсё пакрытае фарбамі, і ўсё як быццам у тоне, дыхае, а пэндзаль лётае, як лётаў, над палатном, раскідваючы мазочкі па небе і па зямлі адразу. Быццам маэстра-піяніст, трымае ўсе гукі-колеры ў абдымках самога твора, усю гаму — на адным дыханні. І мяне зноў пачуў:

— Пастаў талеркі і працуй. Дзень кароткі.

— Ешце, — кажу, — пакуль бульбачка цёплая.

А ён ужо — ні слова. Якая там бульба, калі пэндзаль на самым узлёце? Які голад? Якая сытасць?

Зноў дожджык пырснуў. Спалохаў і аціх. Сонейка за хмары схавалася — ралля ссінела, бярозкі на магільным курганку пагаслі. Вецер шугануў з-за лесу, грымнуў у палатно, нібы ў бубен. Захістаўся эцюднік. Пасыпаў дожджык, хоць дробны, але спорны, грыбны.

Антон Стафанавіч апусціў рукі, прамовіў:

— А я і парасон не ўзяў.

— У мяне ёсць чысты мех.

Ён накінуў мех на галаву і спрабаваў прадоўжыць работу, але дождж мацнеў, узняўся пранізлівы вецер, пачало заліваць палатно. Зняў мех з галавы, накрыў ім палатно і ўзяўся складаць эцюднік. Дождж, як задаволены, што падмануў мастака, зноў аціх. Але настрою да работы ўжо не было. Падышоў да мяне.

Выбліснула сонейка, ралля ў натуры заружавела, у тоне, які я і паклаў у свой пейзаж. Чакаю — маэстра пахваліць?

— Цень ад раллі ў цябе адкуль? — пытаецца.

— Ад хлева.

— А я яго не бачу. У натуры ён стаіць, добра стаіць, цень ад яго, а на палатне хлева няма?

— Пейзаж сонечны, светлы, навошта хлеў?

Антон Стафанавіч паморшчыўся, незадаволены.

— А там, за раллёю, што ў цябе зялёнае?

— А там рунь. Клін поля.

— А дзе ты рунь узяў? У натуры за раллёю быльнёг шэры.

— Быльнёг і пісаць? Як мы сюды ехалі, рунь бачыў, паднялася пасля дажджу. Яна мне спадабалася.

— Гэта там. А тут яна дзе? Жывапіс — не літаратура. — Памаўчалі. Пахваліў неба, як узяў у тоне, але адчуў, што я чакаю яшчэ штосьці, спытаў: — Чым адрозніваецца пісьменнік ад жывапісца? — І сам адказаў: — Пісьменнік піша галавою, а мастак перш-наперш вокам. Што вока ўбачыць, тое напішаш, а калі яно не бачыць, то не напішаш нічога. Галава піша, што ёй трэба, вока ў пісьменніка бачыць адно, а яна піша другое, як вока нічога не бачыць — яна і тады напіша. Галава і д'ябла можа зрабіць анёлам. А я хіба магу з д'ябла пісаць анёла?

— А гэта палітыка, Антон Стафанавіч.

— Гэта і мастацтва. Там і там — рэалізм. Але ў жывапісе, як у мяне, ён іншы, як у літаратуры. Ёсць і жывапіс, падобны на літаратуру, ад галавы. Натура адна, а праўды дзве. Выбірай, якая па душы. Я выбраў.

Ён, як мне падумалася, хацеў спытаць, ці выбраў я сваю меру праўды, ці думаю пра гэта, як сяджу за чыстым лістом паперы альбо стаю за эцюднікам. Гэтае яго пытанне я чую і пазней, як ужо клаўся спаць, прыехаўшы з яшчэ аднаго пленэрнага дня, як ляжаў у ложку са шчымлівай на сэрцы радасцю ад пражытага дня. Было адчуванне, што там, на гары, на беразе возера, размову мы не закончылі і ў новым дні, заўтра, яна прадоўжыцца.

Але не дарма кажуць: наперад не загадвай. Наступнай раніцай Антон Стафанавіч паклікаў мяне да сябе ў пакой — на стале стаяла бутэлечка і чарачка. Я здзівіўся: такога з ім яшчэ не было. А ён сказаў, што чарачка развітальная.

Дзень, які мастак мужна выстаяў пад даждждом і пранізлівым ветрам, закончыўся бядою — ноччу падскочыла тэмпература. Прыехалі дактары. Дыягназ быў не радасны: запаленне лёгкіх. Пад'ехала машына — ён вяртаўся у Мінск.

Апошні пейзаж, недапісаны, на якім закончыўся яго пленэр, ён з сабою не ўзяў. Сказаў, што дапіша, як вернецца.

Мы развіталіся. Але і ў хвіліну развітання ён паспеў мне, як па сакрэце, сказаць:

— Я не супраць руні, якую ты напісаў замест дзядоўніка. Але ж мы пішам не рунь і не дзядоўнік, а святло, колер, тон, якія вакол нас і ў нас. Тон, які ты бачыў на раллі, ляжаў і на тым самым дзядоўніку, на хляве, якія ты ўбраў, і не ляжаў на руні, якую ты пісаў. І ў тоне ты змяніў.

Без старога пленэр працягваўся, але душу страціў. Я гэта адчуваў. І адчую больш: у той дзень ён закончыўся для мяне.

Высокія шкляныя дзверы выставачных залаў Палаца мастацтваў адчыняюцца, за імі — пейзажы па сценах: за залаю — зала. Бліжэй за ўсё пейзажы да нас, адразу насупраць дзвярэй, карціна, мала не двухметровая, першаю вітае ўсіх, хто прыйшоў на выстаўку Антона Стафанавіча Бархаткова. На карціне — акно з пакоя, адчыненае ў дзень вясновы, сонечны, каля акна — піяніна, за ім сядзіць дзяўчынка, ножкі яшчэ не дастаюць да падлогі, над клавіятурай — ручкі, лёгкія птушачкі, вось-вось апусцяцца на клавішы, на якіх, быццам толькі што заляцеўшы ў пакой, адпачываюць плямкі сонечнага святла і ценю. Роцік захоплена адкрыты — на вуснах песенька. Тут і мама, стаіць над дачушкай, яе ахоўніца, слухае, шчаслівая. Карціна яшчэ з шасцідзесятых гадоў у нашых нацыянальных фаліянтах — класіка. Антон Стафанавіч кладзе да яе кветкі, якімі яго толькі што аддзячылі першыя наведнікі выстаўкі. Іншыя, хто з ім, вакол яго, могуць прайсці далей, разглядаючы работы мастака, а ён тут затрымаецца, пастаіць, як перад іконаю самое праўды і чысціні жыцця. Тут яго ці не найбольш дарагая сэрцу песня. Можна ўспомніць пражытае, маладыя гады, пагаварыць з карцінай — з пражытым. І з Соф'яй Кузьмінічнай. Яна, жонка, была камернай спявачкай — музыка ды песні жылі ў кватэры, дзе пісаў муж. Даўно-зарана пакінула свайго жывапісца, пакінула, адышоўшы, багацце немалое — траіх дзетак з душою мастака ў кожнага і песні недаспяваныя, каб ён іх даспяваў у сваіх пейзажах. Святы наказ любімага чалавека ён выканаў, і ці не з гэтым адчуваннем цяпер спакойна, падпіраючыся кульбачкаю, адыходзіць ад карціны.

Далёка мы не ідзём. Тут, дзе "Першая песенька", на суседняй сцяне залы, партрэт Бялыніцкага-Бірулі, які адразу таксама не адпускае — ёсць што ўспомніць і тут:

— У сорак шостым годзе я прыехаў у Маскву пісаць нашага беларускага героя-партызана Даватара. Яго ўжо не было, нечакана памёр, пісаць даваўся з сына Даватара, вельмі падобнага да бацькі твармі. Аднойчы, калі я працаваў, пазваніў Вітольд Каятанавіч і кажа: ведаю, што пішаш героя, але прыедзь да мяне. Сказаў рашуча, і я паехаў. Адчыняю дзверы — чую голас зверху, з другога паверха: ідзі сюды — чакаю. Падняўся лесвіцай — ён мне і кажа: калі б не прыехаў, надраў бы я табе вушы, але цяпер бяры палітру і пакажы, які ты мастак пісаць партрэты, а я — твая натура. І сеў у скуранкое крэсла. Я быў малады, гарачы, пісаў так, што вецер вакол мяне свістаў. За дзве гадзіны адмахаў партрэт. І ён Вітольду Каятанавічу спадабаўся. А другі яго партрэт зрабіў з натуры праз два гады.

Другім разам Бархаткоў пісаў Бірулю ў сорак сёмым на Белай дачы ў Мінску, дзе той жыў, прыехаўшы на знясіленую ў вайне радзіму. Быў май, цвілі сады. Неба — блакіт глыбокі, і вочы ў Вітольда Каятанавіча — блакіт нябесны, цёплы. На першым партрэце ён — мысліцель, крыху барын, як казалі мужыкі Удомлі, дзе мастак жыў у сваім доме, а тут — сам мужык з цыгаркаю, задумлівы. Вёска пра яго казала яшчэ і гэтак: душа-мужык. То — барын, а то — мужык. І гэтакія два вобразы аднаго чалавека ў Бархаткова: адзін — барын, другі — мужык. Па жывапісе, настроем, аўтару больш падабаецца другі — Біруля тут па-сялянску зямны, просты, зразумелы.

Побач з блакітнавокім Бірулем на сцяне — эцюд: яблыневы сад на Белай дачы, які

*Антон Бархаткоў і Вітольд Бялыніцкі-Біруля з жонкай на эцюдах у Беларусі*

Біруля тады, у сорак сёмым, любіў пісаць і які з ім побач пісаў малады Антон. Эцюд дарагі сэрцу мастака не толькі тым, што нагадвае найшчаслівейшую вясну, але і тым, што дыхае самім Бірулем.

— Памятаю, як я баяўся над гэтым эцюдам. Не атрымліваўся пярэдні план. Месца роўнае, няма за што воку зачапіцца. Вітольд Каятанавіч мой пот заўважыў — падышоў, размяшаў на палітры паболей фарбы, пэндзлем — шах-шах, і атрымалася адразу формы, купіны, салома. Далей быў роў, і я быў разгубіўся: які ўзяць тон? А ён пэндзлем шаргануў — ніякага рова, раўнінка легла зграбная, прыгожая. Паклаў і светлыя мазочкі. Я пісаў — як трэба, каб быць дакладным, а ён — як душа адчула, паказала. Прыбавіў цень ультрамарынавую ад яблыні і кажа: цяпер ты свой эцюд можаш несці на любую выстаўку. З таго часу ён і вандруе па выстаўках, паўвека, дзе ні павесіш — да месца, гучыць. А паміж выставак ён у мяне дома, грэе маю старасць тым яблыневым маем, успамінам. Ці гэта не вучоба ў майстра? Ён мне казаў: прырода павінна зачараваць душу — тады напішаш. Я гэта запомніў на ўсё жыццё. Гэтак і пішу.

Стары падхопліваецца з крэсла, вядзе мяне ў канец залы.

— Тут стой. Глядзі.

Стаю. Гляджу. Пейзажык чым напісаны? Здаецца, што не фарбамі, не пэндзлем - сінім ветрам, бураю. Чаму ён тут і хто пісаў? Чыя рука? Чый тэмперамент?

Маю разгубленасць ён заўважае, усміхаецца.

— Ды гэта ж творчая дача мастакоў пад Валачком, Акадэмічка. Іду я неяк надвечар. Дождж адшумеў, але ў прыродзе ўсё яшчэ ўзварушанае навальніцай. Бачу на далягляддзе, за стажком, які, дарэчы, пісаў таксама, паміж ссінела-скаламучаным небам і прыцемкам на зямлі доўгую светлую палосу, святло пагодліва-мяккае, зацішнае, і лапінку ружовага цяпла пад ёю, сонейка злядок. Мяне ўсяго, душу і цела, аж калатнула ад захаплення. Я — у майстэрню. Схапіў эцюднік, нейкі кардон ды хутчэй назад, на тое месца, дзе, у галаве, як бег, прыкінуў, можна стаць і пісаць. А мне насустрач ідзе Сяргей Ткачоў, славуты жывапісец, акадэмік. "Антон?! Колькі лет-зім не бачыліся?" Абняліся. Я калачуся — душа пісаць настроілася, увесь — там, у матыве, а тут — сябра. Ён мяне зразумеў, бяжы, кажа, пішы, будзе час — убачымся. Я эцюднік паставіў, фарбы на палітры замяшаў, а неба дагарае, садзіцца, палоса святла гасне. Пісаў, хапаючыся нібы вар'ят, з паўгадзіны. Бачу — фарбы ў кардон правальваюцца, нібы вада ў пясок. Кардон пад рукі трапіў рыхлы, негрунтаваны. Прапісаў — кашуля мокрая, а фарбы не гараць. Я ўсё з сябе паскідаў на зямлю і — да другога поту. А тут і далягляд пагас. Вярнуўся ў пакой, эцюд праз фортачку за раму хаваў, каб ніхто не бачыў, каб і самому не бачыць, пайшоў вячэраць. А назаўтра мастацкая камісія прыязджае: што мастакі пішуць — паглядзець. І да мяне зайшлі. Паказваю. Кугач, акадэмік жывапісу, на ўсю краіну аўтарытэт, за фортку эцюд заўважыў: што там хаваеш? І вывудзіў. Усе ахнулі:

***Пачуццё безвыходнасці, драматызму і гістарычнай прадвызначанасці лёсу асабліва абвастраецца ў пераломныя моманты жыцця чалавецтва. Такі момант мы перажываем сёння — на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў. Ён высвечвае знамянальныя і трагічныя старонкі мінулага, а заадно — і нашую здольнасць забяспечыць годнае існаванне цяперашняму і будучаму пакаленням. Гэтая акалічнасць выклікае натуральнае жаданне разабрацца ў тым, што з намі адбылося, дзе вытокі нашых сціплых заваёў і цяжкіх паражэнняў, што рэальна мы можам зрабіць для паляпшэння свайго становішча ў складаных, няпростых варунках нашай сённяшняй рэчаіснасці.***

Вельмі своечасовай і сур'ёзнай спробай такога аналізу стала кніга Аляксандра Алпеева "Мы — народ... XX век". Напісаная ў форме гісторыка-публіцыстычнага эсэ, яна ўяўляе своеасаблівую хроніку падзей навейшай гісторыі, асабістую і неабыякавую ацэнку з пункту гледжання іх уплыву на жыццё суайчыннікаў. Пры гэтым аўтар не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі, а проста імкнецца паказваць падзеі як мага больш аб'ектыўна і праўдзіва. А ў якасці жывога ўвасаблення глабальных грамадскіх працэсаў ён выбраў сваю родную палескую вёску Рудня, што ў Жыткавіцкім раёне, жыццёвы шлях і лёс сваіх землякоў, родных і блізкіх.

Заснаваныя на рэаліях пражытага намі стагоддзя, гэтыя меркаванні міжволі абуджаюць у чытача лагічны вывад аб тым, што менавіта ў вышэйназваным трэба шукаць вытокі нашых сённяшніх супярэчнасцей і нявырашаных праблем. Усё гэта вымушае нас яшчэ раз спыніцца, азірнуцца, задумацца: чаму магло такое здарыцца? Чаму мы менавіта такія, што з нас можна вяроўкі віць, што маўклівая згода пераважнай большасці народа прыводзіць яго да абсурднага, можна сказаць, дзікага стану? Чаму тыя жудасныя злачынствы дасюль застаюцца беспакаранымі, а дзяржава-правапераемніца СССР не папрасіла прабачэння і не пакаялася перад сваім народам, як гэта зрабілі, скажам, улады ў Балгарыі, Чэхіі і Польшчы?

У спецыяльных раздзелах "Лёсы людскія", "Армейскія універсітэты", "Крыніца духоўнасці" А. Алпееў змог арганічна ўключыць у кантэкст агульных грамадска-палітычных і сацыяльных праблем сваю асабістую біяграфію. Перш за ўсё шчырую любоў да сваіх маці і бацькі, удзячнасць сваім блізкім і родным — былым франтавікам, працаўнікам палёў і ферм, якія, самі таго не ўсведамляючы, прывілі яму пачуццё грамадзяніна, патрыёта Радзімы.

Думаецца, павучальным для нашых сённяшніх педагогаў і арганізатараў асветы можа стаць такі ўспамін аўтара: "Клас наш быў дружным, ніякіх канфліктаў на нацыянальнай або рэлігійнай глебе тады не было і не магло быць, хаця каля трэці класа складалі дзеці яўрэйскай нацыянальнасці. Усе прадметы вывучаліся на беларускай мове, і трэба сказаць, усе настаўнікі свабодна валодалі ёй". У сувязі з гэтым нельга не паспачуваць перажываннем аўтара, што праз 30 гадоў пасля гэтага, гэта значыць у канцы 1980-х — пачатку 90-х гг., калі ён працаваў на кафедры гісторыі БДУ, роднай мове вучылі дацэнтаў і прафесараў, каб яны на ёй маглі чытаць лекцыі і праводзіць семінарскія заняткі (?!)

Але галоўную сваю задачу А. Алпееў бачыць у тым, каб "дакапацца" да сапраўдных прычын перажытых намі трагедый, катастроф, сацыяльных і духоўных узрушэнняў. Раздзел кнігі "Чарнобыль: быць ці не быць народу?" — яскравае таму сведчанне. Нашу родную Белую Русь той незабыўнай вясной 1986 г. ужо накрыў радыяцыйны попел, а мы, наіўныя, жылі ў няведанні, спакойна саджалі сваю бульбу і даглядалі пасевы, рыхтаваліся да першамайскіх урачыстасцей, каб у чарговы раз услáвіць партыю і яе кіраўнікоў за пражыты "шчаслівы" дзень. Насамрэч, тады ўзялі верх усе тыя ж застарэлыя хваробы сістэмы — хлусня, крывадушнасць, насілле і падман людзей, неадольнае жаданне ўладарыць над імі.

Аб рэальных маштабах і згубнасці гэтай трагедыі сведчаць прыведзеныя ў кнізе лічбы: ядзерны рэактар у Чарнобылі выкінуў у атмасферу столькі радыенуклідаў, колькі далі б 500 бомб, аналагічных тым, што былі скінуты ў жніўні 1945 г. на японскія гарады Хірасіма і Нагасакі. Плошча забруджанай цэзіем-137 тэрыторыі Беларусі склала звыш 7 тыс. кв. км (у Расіі — 2,5, на Украіне — 1,5 тыс. кв. км), на якой пражывае 2,1 млн. чалавек, або амаль 20 працэнтаў насельніцтва рэспублікі. Вымушанымі ізгоямі сталі сотні тысяч чалавек, якія павінны былі назаўсёды пакінуць родныя месцы, магілы прашчураў, нажытую гадамі маёмасць. А на парозе XXI стагоддзя мы дасягнулі, што называецца, піка анкалагічных, сардэчна-сасудзістых і іншых захворванняў, высокага росту смяротнасці і зніжэння нараджальнасці насельніцтва.

На наш погляд, аўтару ў пэўнай ступені ўдалося раскрыць не толькі сутнасць намераў архітэктараў "рэвалюцыйнай перабудовы" і "кардынальнага абнаўлення" ўсіх сфер жыцця грамадства, але і прычыны поўнага правалу гэтых партыйных лозунгаў і ўстановак. Яны ў тым, што, па-першае, немагчыма ў прынцыпе адначасова ажыццяўляць перабудову і паскарэнне нават у адной галіне народнай гаспадаркі, не гаворачы аб усёй краіне. Па-другое, рэалізаваць гэтыя планы меркавалася ва ўмовах не толькі захавання сацыялістычнага спосабу вытворчасці, але і яго ўмацавання, абнаўлення ў выглядзе сацыялізму з "чалавечым тварам".

Іншымі словамі, грамадства нацэльвалася на правядзенне яшчэ аднаго непрадуманага і неабгрунтаванага сацыяльнага эксперыменту, які ажыццяўляўся метадам спроб і памылак. Да таго ж правядзенне "навацый" у эканоміцы не было падмацавана зменамі ў палітычным уладкаванні краіны, а рашэнні XIX Усесаюзнай партканферэнцыі аб дэмакратызацыі грамадскага жыцця, галоснасці, гарманізацыі міжнацыянальных адносін у многім засталіся толькі на паперы. З яшчэ большай сілай пачалі прарастаць і набіраць абароты беспарадкі, карупцыя, беззаконне і самавольства, масавая злачыннасць і маральная дэградацыя. Адсюль тагачасныя няўдалыя спробы пераламіць да лепшага сітуацыю ў эканоміцы Беларусі, якая па многіх паказчыках значна апераджала іншыя рэспублікі СССР і да сярэдзіны 1980-гг. трывала займала лідзіруючае становішча ў адзіным народнагаспадарчым комплексе краіны.

Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ

# Горкая расплата

## РОЗДУМ, АБУДЖАНЫ АДНЫМ ЭСЭ

Сёння, небеспадстаўна лічыць А. Алпееў, мы пажынаем плады той авантуры, якую задумаў і ажыццявіў у 1917 годзе шляхам крывавага перавароту і насілля У. Ульянаў (Ленін). Малох устаноўленай бальшавікамі "дыктатуры пралетарыяту" пад сваімі жорнамі раздушыў дзесяткі мільёнаў чалавечых жыццяў, рассыпаў зерне класавай нянавісці і разладу, нецярпімасці да іншадумства. Пазбавіцца ад гэтай страшнай сілы не дапамаглі ў свой час ні паўстанні сялян Тамбоўшчыны і Украіны, ні антыбальшавіцкі "мяцеж" у Кранштаце, ні Слуцкае паўстанне 1920 г. Характэрна, што і гэтае паўстанне, як і многія іншыя, было жорстка задушана і аб ім на працягу сямідзесяці гадоў нічога не ўзгадвалася.

З горыччу і болем ў сэрцы разважае аўтар аб вытоках і невераГодных па сваёй жудаснасці выніках масавых рэпрэсій у СССР 1930-х — 50-х гадоў, якія сталі арганічнай часткай і сутнасцю аўтарытарна-бюракратычнага рэжыму І. Сталіна. "Пасля 1937 г., — адзначаецца ў кнізе, — гэта была зусім іншая краіна, канешне, не сацыялістычная і не капіталістычная. Пачварны феадальна-рабаўладальніцкі гібрыд, растаптаная, згвалтаваная "крамлёўскім горцам" некалі вялікая дзяржава".

Сёння, калі на парадак дня паўстала пытанне аб адказнасці ідэолагаў і натхняльнікаў масавых рэпрэсій, павучальнымі ўяўляюцца старонкі кнігі аб механізме гэтай страшнай машыны, гэтага "масавага, зверскага і непадуладнага логіцы злачынства". Аўтар прама называе яго ідэолагаў, натхняльнікаў і выканаўцаў. Сярод іх Ф. Дзяржынскі, Л. Троцкі, К. Варашылаў, Л. Кагановіч, В. Молатаў, М. Яжоў і інш. Менавіта яны на Палітбюро ЦК КПСС прымалі пастановы аб аперацыях па рэпрэсіраванні кулакоў, іншых антысавецкіх элементаў.

Для Беларусі, напрыклад, першапачаткова даводзілася заданне на 12 тыс. рэпрэсіраваных: 2 тыс. па першай "расстрэльнай" катэгорыі, 10 тыс. па другой (шматгадовыя высылкі, пажыццёвае зняволенне ў канцлагерах). Але заўзятае беларускае кіраўніцтва, як вядома, дабівалася ад Палітбюро значна большага задання. У тыя гады былі арыштаваны і расстраляны каля 40 чалавек з вёскі Рудня, у т. л. дзядуля аўтара Аляксандр Кірбай, яго браты Вацлаў і Мікалай; 2896 жыццяў загублена ў Мазыры і ва ўрочышчах вакол яго.

Характэрная асаблівасць кнігі А. Алпеева ў тым, што ў ёй дыялектычна звязваецца асабістае і грамадскае, лёс сваёй сям'і з лёсам усяго беларускага народа, пакуты і спадзяванні суайчыннікаў з філасофска-псіхалагічным асэнсаваннем трагедыі... Селяніна-бальшавіка Кірбая абвінавацілі ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і шпіянажы — хіба гэта не тыповы вобраз ні ў чым невінаватых людзей, якіх раструшчыў той самы "каток масавых рэпрэсій"? А колькі пакут і ахвяр каштавалі краіне сталінскі наступ на прыватны сектар, а затым прымусовая калектывізацыя і "паскораная" індустрыялізацыя? Або знішчэнне амаль палавіны ўсяго каманднага і палітычнага саставу арміі і флоту — ад камандзіра брыгады і вышэй.

---

*Алпеев А. Н. Мы — народ... XX век: Историко-публицистическое эссе. Изд. 3-е, переработанное и дополненное. Мн., "Веды", 1999. 196 с.*



*Фота А. ПРУПАСА*

Сутнасць сучаснага этапу развіцця беларускага грамадства аўтар бачыць у прынцыповай (а не няправа-фасаднай) змене сацыялістычнага арыенціру на развіццё рыначнай эканомікі. А гэта немагчыма зрабіць без канкрэтных карэнных перамен у самой структуры вытворчых адносін, перш за ўсё стварэння ўмоў для шматукладнай эканомікі, фарміравання і развіцця прыватнай уласнасці.

Але самі па сабе або па дырэктывах "зверху" такія змены не адбудуцца — трэба прынцыпова іншыя, чым пры сацыялізме, жыццёва-практычныя прынцыпы, аснову якіх складаюць свабода выбару, індывідуальная ініцыятыва і індывідуальная адказнасць. І тут вельмі важна, каб тыя, ад каго залежыць рэалізацыя задуманага дзяржавай, зразумелі, што нельга заганяць прадпрымальнага чалавека ў штучна створаныя бюракратычныя ўмовы тармажэння ініцыятывы, заціскаць яго падатковым прэсам, штрафнымі і адміністрацыйнымі санкцыямі. І яшчэ — арыентацыя на палітычную незалежнасць і суверэнітэт не адмаўляе, а прадугледжвае захаванне пазітыўнага вопыту мінулых часоў, напрыклад, высокай грамадскай каштоўнасці працы, калектывізму, узаемнай падтрымкі і выручкі.

З чым Беларусь уступае ў XXI стагоддзе? Куды мы ідзём і што нас чакае на гэтым шляху? Ад каго залежыць наш сённяшні і заўтрашні дабрабыт, спакой і ўпэўненасць у сваіх сілах? Адказы на гэтыя і іншыя надзённыя пытанні можна знайсці ў апошніх раздзелах кнігі "Ад сацыялізму — да чаго?" і "Аб палітыцы пераходнага перыяду". Галоўнае тут не бегчы ад рэчаіснасці, якой бы складанай і супярэчлівай яна ні была, усталяванне грамадскай згоды, паразумення паміж дзвюма далёка не раўназначнымі па колькасці і па ступені ўплыву сацыяльнымі слаямі грамадства — элітай і т. зв. народнымі масамі.

Паводле А. Алпеева, беларуская палітычная эліта складаецца з "уладарнай" і "апазіцыйнай" частак. Канструктыўны патэнцыял гэтых вельмі розных па сваіх падыходах і ацэнках грамадскіх сіл мог бы намнога павялічыцца, калі б удалося пазбегчы пастаяннай унутранай нестабільнасці, празмернай любові да папулізму, амбіцыёзнасці і выкарыстання свайго грамадскага статуса для дасягнення карыслівых інтарэсаў і мэт.

Таму невыпадкова, справядліва зазначае аўтар, што ў апошнія гады адносіны да палітыкі грамадзян краіны становяцца ўсё больш персаніфікаванымі, а ў сваім выбары народ пачаў кіравацца асобаснымі сімпатыямі, самымі простымі чалавечымі якасцямі канкрэтнага палітыка, а не яго партыйнай прыналежнасцю. Адсюль і тая падтрымка, якую аказаў і аказвае электарат Аляксандру Лукашэнку, як палітыку і кіраўніку дзяржавы, і іншым прадстаўнікам т. зв. "генерацыі саракагадовых". Адсюль і дыялектычная ўвязка імі праблем сацыяльна-эканамічнай і палітычнай трансфармацыі ў Беларусі з праблемамі нацыянальнага суверэнітэту і самавызначэння, гарманічнымі адносінамі з Расіяй, краінамі СНД і Захаду...

У заключэнне некалькі дадатковых штрыхоў да партрэта аўтара гісторыка-публіцыстычнага эсэ. Аляксандр Мікалаевіч Алпееў — доктар палітычных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай кадравай акадэміі, рэктар Гуманітарна-эканамічнага недзяржаўнага інстытута (г. Мінск), аўтар больш чым 70 манаграфій, навуковых артыкулаў, навучальных дапаможнікаў. Ён з'яўляецца заснавальнікам і старшынёй Савета Беларускай акадэміі грамадскіх навук і Беларускага цэнтра падтрымкі хрысціянскай культуры, узначальвае Беларускі рух у падтрымку народа, які ставіць сваёй мэтай аб'яднанне намаганняў народа для захавання міру і згоды, садзейнічанне працэсам стабілізацыі грамадства і пошуку найлепшых шляхоў выхаду з сацыяльнага і духоўнага крызісу...

***P.S. Гэтымі днямі Станіславу Дубянецкаму — вучонаму споўнілася 60 гадоў. "ЛіМ" віншуе нашага даўняга аўтара і зычыць яму творчага плёну!***



## ЧАСАПІС

### Каласок з Глыбоцкай нівы

**Сёлета спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння паэта Алеся Дубровіча. На жаль, сказаць дакладна, калі ўпершыню пабачыў свет Аляксей Рыгоравіч Рэдзька (сапраўднае прозвішча А. Дубровіча) немагчыма, бо не захавалася дакладных звестак. А нарадзіўся ён у вёсцы Каралевічы цяперашняга Глыбоцкага раёна. Пасля заканчэння вясковай школы шмат займаўся самаадукацыяй, далучыўся да рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1933 годзе А. Дубровіч быў сярод тых заходнебеларускіх літаратараў, якія сабраліся на свой нелегальны з'езд, каб утварыць Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Неўзабаве быў зняволены ў сумна вядомую турму Лукішкі, дзе правёў два гады. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў у валасным рабоча-сялянскім камітэце, выбіраўся старшынёй сельсавета, дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку, а перад самай вайной працаваў у раённай газеце. З акупацыяй родных мясцін стаў падпольшчыкам. Быў высачаны фашыстамі і расстраляны 7 лістапада 1942 года.**

**Друкаваўся А. Дубровіч з 1928 года. Спачатку ў прагрэсіўнай газеце "Доля працы", а затым у такіх заходнебеларускіх выданнях, як "Беларуская газета", "Літаратурная старонка", "Калоссе", "Беларускі летапіс". Сучасны чытач з творамі А. Дубровіча можа пазнаёміцца ў калектыўных зборніках "Сцягі і паходні" (1965), "Крывёю сэрца" (1967), "Ростані волі" (1990). Увайшлі яны і ў кнігу "Мы іх не забудзем", што пабачыла свет яшчэ ў 1949 годзе.**

### Нямарна пражыта

**Павел Ткачоў, вядомы як празаік, крытык і літаратуразнавец, нарадзіўся 3 верасня 1930 года ў вёсцы Скадаінаўка Шахцінскага раёна Растоўскай вобласці, Расія, памёр 1 студзеня 1998-га. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Выдаў шэраг кніг аповесцяў і апавяданняў для дзяцей: "Мікіткаў падарунак", "Пра Сяргейку і лясных жыхароў", "Вішнёвая квецень", "Сэрца камунара" і іншыя. Адзін з аўтараў і ўкладальнікаў кніг "Піянеры-героі", "Напісалі кніжку самі", "Эстафета пакаленняў". П. Ткачоў — аўтар манаграфій "Вечный бой. Памфлетное наследие Я. Галана и традиции М. Горького", "Иду на "вы". Заметки о памфлете", "Сатиры злой звенящая строка..." і іншых.**

**Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях газет "Зорька", "Піянер Беларусі", часопіса "Бярозка". Пасля заканчэння аспірантуры выкладаў рускую класічную літаратуру, з 1969 года загадваў кафедрай рускай класічнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1981—1986 гадах быў дэканам факультэта журналістыкі.**

### На ўзлёце падрэзаныя крылы

**Віктар Казлоўскі, як і многія ў дваццатыя—трыццатыя гады, пачынаў хораша і ўпэўнена. Скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум, а пасля — літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях розных газет і часопісаў, у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. З'яўляўся карэспандэнтам рэдакцыі газеты "Звязда". Друкавацца пачаў рана: з першымі вершамі выступіў у газеце "Савецкая Беларусь" у 1925 годзе, маючы за плячыма ўсяго дваццаць гадоў. Плённым стаў для В. Казлоўскага 1932 год, калі ў яго выйшла тры кнігі: зборнікі вершаў "Слова аб юнай краіне" і "Музыка працы", а таксама асобным выданнем паэма "Рахіль". І хто ведае, як бы раскрыўся яго талент, калі б не тая атмасфера, што склалася ў краіне, калі паўсюдна шукалі "ворагаў народа". Арышт блізкіх сяброў, высылка некаторых, а некаторых — расстрэл, боязь, што і самога напаткае гэткая ж доля, не прайшлі бясследна. В. Казлоўскі цяжка захварэў. Увесну 1945 года пераехаў у родную вёску Мрочкі, што на Уздзеншчыне, дзе і жыў да самай смерці 24 лютага 1975 года.**

**6 верасня з дня нараджэння В. Казлоўскага споўнілася 95 гадоў.**

## ПЕРАКЛАДЫ

# ШАМДЗІН

Ганад ЧАРКАЗЯН

У курда Аўдала нарадзіўся сын. І Аўдал мовіў: «Гэтае дзіцятка мы чакалі дзесяць гадоў. Паклічам шэйха, ён зробіць першую стрыжку і атрымае сваё законнае паднашэнне — бараньку. Дзякаваць Богу, будзе і ў нас паўнацэнная сям'я».

На сёмы дзень пасля народзінаў у прысутнасці шэйха Мусы дзіцяці далі імя Шамдзін. Шчаслівы Аўдал загадаў зарэзаць бараньку ды пачаставаў блізкіх і суседзяў. Бацька малюпасенькага Шамдзіна сказаў: «Калі б я меў стрэльбу, дык стрэліў бы з яе дзесяць разоў. Ды не маю стрэльбы, абыдземся без стрэлаў». Шэйх Муса ўхваліў ягоныя словы і яшчэ дадаў: «Не ў колькасці стрэлаў справа. Бог і так пачуў твае малітвы. Усе ведаюць, як ты шчыра і часта звяртаўся да Бога. Пачуў тваю мальбу Усявышні, ён паслаў табе шчасце — сына. Цяпер у доме тваім не пагасне агмень... Будзе каму твой род прадоўжыць...»

Да таго як нарадзіўся сын, Аўдал кожнай раніцы, стаўшы на калені тварам да сонца, паўтараў малітву: «Божа, спачатку дапамажы сямідзесяці двум народам свету, а потым ужо мне. Пашлі сына».

Калі цуд збыўся, Аўдал яшчэ раз пераканаўся, што Бог ёсць. Па звычаі ён узяў пястачку зямлі й пасыпаў сабе галаву: «Твая зямля — мне на голаў, Божа. Ты паслаў мне шчасце». Тое самае зрабіла і жонка Аўдала. Яна плакала ад шчасця. І шэйх Муса пасыпаў сабе галаву зямлёю, бо так патрабаваў звычай. Ды глыбакадумна сказаў: «Нічога ў свеце не прападае дарма. Ані дабро, ані зло. У тваім выпадку перамагло дабро. Значыць, перамог Бог...»

А зямля круцілася вакол сонца. Раслі дрэвы. Цяклі рэчкі. Штодня ўзыходзіла сонца і заходзіла за далягляд. Аўдал верыў у Бога, ва ўсё ім створанае. Ён кланяўся сонцу, цалаваў зямлю, абмываў твар быстрай вадой з рэчкі, развешваў рознакаляровыя палоскі на ахвярнае дрэва жаданняў. Так належала. Так ён і рабіў.

Сястра Аўдала, якая болей за ўсіх перажывала, што ў брата няма сына, пасля нараджэння Шамдзіна павяла сябе неяк дзівакавата. Усім распавядала, што гэта ейныя малітвы пачуў Бог і таму ў Аўдала нарадзіўся сын. Яна пашыла сабе белую апратку ды так ва ўсім белым хадзіла ад двору да двору, дакляруючы, што неўзабаве паляціць. І так пэўна гэта казала, аж людзі паверылі, што Сінам і сапраўды скора паляціць. Сем гадоў хадзіла яна ў белі, аднак ніхто так і не ўбачыў, каб яна ляцела. А Сінам цвярдзіла адно, што паляціць неўзабаве.

Спачатку шэйх Муса сказаў: «Бог бачыць, яна святая...» Гэта азначала шмат.

Час ішоў, і неўзабаве ў Аўдала адзін за адным нарадзіліся яшчэ два сыны. Ды раптам здарылася бяда. Аўдал упаў са скалы і разбіўся. Ніхто не мог даўмецца, чаго ён туды падняўся. Дужа сумнеўна было ўсё гэта. Шэйх адно заўважыў: «Бог узяў яго да сябе».

Асірацелі Аўдалавы дзеці. Сінам, што ўсе гэтыя гады жыла, чакаючы, калі паляціць у неба, неяк замкнулася, хадзіла асцярожна ды нешта казала сама сабе, як бы з сабой размаўляла. Калі раней і можна было зразумець паасобныя ейныя словы, дык з часам стала немагчыма разабраць, пра што яна гаворыць. А пасля яна загаварыла ўцямна і разумна:

— Бог усё бачыць, як ні старайся схавацца. Нікуды не ўцячэш ні ад сябе, ні ад Бога. Чаму бачыць ён усё, што адбываецца з намі, не ўсе ведаюць. Я вось бяру люстэрка, гляджу ў люстэрка і бачу Яго. Ён жыве ўнутры кожнага з нас. Іначай як ён можа даведацца, пра што мы думаем? Ён у нас, наш Бог...

Словы гэтыя сказала Сінам у тую страшную раніцу, калі разбіўся Аўдал. Пачуўшы такія развагі, шэйх Муса, аднагодак веку, заключыў, хоць не дужа пераканальна: «Яна, па ўсіх пазнаках, з'ехала з глузду. Відаць, братава смерць паспрыяла».

Шэйх Муса, бачачы ў Сінам нейкім чынам свайго канкурэнта, крыху пабойваўся яе. Асабліва апошнім часам, калі Сінам загаварыла пра рэчы, пра якія жанчыны не кажуць уголас. А Сінам так і заявіла:

— Я чую галасы з неба. Бог кліча мяне, і неўзабаве я туды палячу. Галасы мне кажуць, што шмат чаго вакол нас на зямлі робіцца не так, як кажа Бог. Ён наказвае нам дзеіць болей дабра, толькі дабра. А мы адно думаем ды мроім пра дабро, а робім зло. Няма таго месца на зямлі, дзе б ні пакінула нашае зло свае сляды... На кожным кроку. І не кожнаму ўдасца ўбачыць свайго Бога, Бога дабра, які перамагае зло. Аўдал верыў у Бога дабра і любіў яго. І любоў гэтая ўзняла яго на неба. Ён паляцеў, і я неўзабаве палячу следам за ім...

Бог, відаць, не пярэчыў, каб на зямлі жыла бадай што ягоная аднадуміца.

По традыцыі шэйх Муса перад паховінамі абмыў нябожчыка толькі да паясніцы. Так належыць. Ніжэй ад паясніцы абмываў ужо іншы чалавек, іншы служка боскі — пір, які на іерархічнай лесвіцы займаў прыступку ніжэйшую, чым шэйх. Кожны з іх ведаў сваё месца ў такіх цырымоніях. Уся адзежа памерлага перадавалася шэйху, а ўжо ён у сваю чаргу дзяліў яе паміж сабой і пірам. Пір ніколі не крыўдаваў. Ведаў, што шэйх быў куды бліжэй да Бога, і верыў, што ў любым выпадку шэйх меў рацыю.

Сінам, як верная сястра, пры людзях адрэзала касіцу ды паклала брату на грудзі, галосячы:

— Я скора палячу за табой, мой брат... Ты там болей патрэбны, чым тут. Богу лепей бачна. Кожнаму сваё годнае месца на зямлі й на небе...

Пасля пахаваў Аўдала, на сёмы дзень, Сінам прызначыла свой палёт у неба. Людзі дзівіліся ды шкадавалі. Сінам заявіла:

— Мабыць, я ўпаду ў вашых вачах. Але душа мая паляціць. І той, хто ўбачыць, як адлятае мая душа, будзе дабрэйшы і чысцейшы ад усіх. Ён будзе любіць Бога й дзеі божыя болей за ўсіх.

Яна ўсміхалася і абсалютна пры сваім розуме ўзнялася на тую ж скалу, адкуль упаў ейны брат Аўдал. Як магнітам цягнула яе туды. І вось яна ахапіла позіркам свет, што акаляў яе, сонца, горы, натоўп здумеўных і разгубленых людзей ды памахала рукамі. Ці вецер, ці цішыня, што таксама анямелі, данеслі апошнія ейныя словы: «Хто ўбачыць, як душа мая паімкнулася ў неба, будзе той самым шчаслівым чалавекам».

Сінам крыкнула яшчэ нешта і кінулася са скалы. Падала хуткай пушынкай. У роспачы махала рукамі. Аднак палёту, якога чакалі прысутныя, не атрымалася. У імгненне разбілася на вачах у людзей. Ніхто не мог ёй дапамагчы. Усе ўтрапелі. З натоўпу да месца падзення першым кінуўся ейны сямігадовы пляменнік Шамдзін. І яму аднаму была відзежа.

— Глядзіце, глядзіце! Душа ляціць! Цётчына душа ляціць!

У небе над скаламі з'явілася вялізная белая птушка. Яна кружыла высока-высока ды як узнікла, гэтак і знікла раптоўна. За вяршыняй. Хтосьці сказаў, што гэта горны арол, патрывожаны крыкам Сінам, вылецеў з гнязда. Аднак жа птушка была... І шмат хто паверыў, што душа Сінам паляцела на неба. Яны прысягалі, што бачылі гэта. Але першым убачыў гэта сын Аўдала Шамдзін. І тады шэйх Муса заключыў:

— Вачыма Шамдзіна ўбачылі мы душу Сінам. Гэта воля Усявышняга. Тое, што адбылося, бачылі горы, сонца, птушкі, рэчкі. Сінам была пасланая нам самім Богам. Яна бачыла і чула лепей за нас. А Шамдзін, як і прарочыла Сінам, будзе шчаслівейшым і разумнейшым за нас. Клянуся сонцам...

Сінам пахавалі з усімі пашанотамі. А скалу назвалі яе імем.

З тых сумных дзён мінула шмат часу. Шамдзін рос незвычайным хлопчыкам. У той дзень, калі ўбачыў ён невядомую птушку, адчуў, што здарылася нешта важнае, нешта змянілася ў ім. Верыў, што прароцтвы Сінам могуць збыцца. Ён цвёрда сказаў сабе, што Бог ёсць. Бог ёсць дабро проці зла. Забі ў сабе зло, і Бог пераможа. Не пашанцавала бацьку, не пашанцавала цётцы Сінам. Але пашанцавала ўсім, хто застаўся, хто жыве. Жыццё сваё кожны можа пражыць па-свойму. Толькі трэба дужа захацець гэтага. Шамдзін разумеў, як цяжка будзе выжыць ягонай сям'і без бацькі. Ды ўпэўнены быў, што яны выжывуць. Бог унутры яго падказваў гэта. Бог дабра мусіць перамагчы.

Ішлі гады, жыццё для Шамдзіна рабілася ўсё болей празрыстым. Шамдзін мог лёгка разабрацца ў рэчах, у якіх болей вопытныя часам не маглі толку дабраць. І самому сабе ён адкрыў адну ісціну — кожны мае роўныя правы на гэтай зямлі. Кожны жыве, як можа, як хоча. І не варта дакараць неразумнага за тое, што розум у яго не спрытны. Бог зрабіў яго гэтакім. Па розуму і справы. Калі Бог стварыў яго такім, значыць, так трэба. Бог справядлівы заўсягды.

Шамдзін жыў у сваім свеце са сваімі думкамі і развагамі. А людзі наўкол жылі ў сваім свеце, у які аднойчы прыйшлі, каб потым пайсці з яго, у свеце святым і грэшным, вясёлым і сумным. Людзі былі грэшныя і на грэшнай зямлі жылі.

І ўсё здаралася на зямлі. Як і гэтая прыгода. Увосень у паравіну вяселляў не спала ліха. Гэтае вяселле грымела чатыры дні і чатыры начы. Як шал які напаў на вясельнікаў. А ў апошні дзень пасля шлюбнае начы ўсе зрабіліся нейкімі чужымі, жорсткімі, звар'яцелымі. Быццам выкіпела ў іх ўсё ўсярэдзіне.

Выцягнулі перапалоханую да смерці маладуху, пасадзілі яе на асла тварам да хваста. Праз усё сельбішча, тукаючы ды абражаючы, натоўп павёў маладуху да бацькоўскага дома. Гэта была дарога ганьбы. Усё гэта азначала, што маладуха развіталася з цнатлівасцю да вяселля. Бо на прасцірадле не засталося пазнак цноты. Маладзенькая нявеста выплакала вочы. Бацька ды браты ейныя, нічога не высніўшы, збілі яе да смерці. Так загадваў звычай. А ён і быў законам. Выпадак гэты пахіснуў падмурак разумнасці.

І толькі праз колькі часу, перад смерцю, свякроў тае няшчаснай дзяўчыны прызналася ў сваім цяжкім граху, баючыся трапіць у пекла. Перад шэйхам і сваёй сям'ёй паклялася. Цнатліваю была нявестка, ды свякроў так неўзлюбіла яе, што пасля шлюбнае начы падмяніла прасціраддлы. Добра ведала законы й нораў свайго мужа і ягонае радні.

Шэйх, як чалавек ад Бога, мусіў абвясціць такую навіну. І абвясціў, калі яшчэ грэшніца не аддала душу Богу.

Свякроў хавалі не так, як хаваюць добрых людзей, не адразу, а пазней, калі ўжо немагчыма было болей трымаць нябожчыцу ў хаце. Пахавалі ўначы спецыяльна запрошаныя знаёмыя армяне, пахавалі асобна ад усіх, без пашаноты, без памінальнага абраду. Значыць, так хацеў Бог на небе. Усявышні ўсё бачыў і ўхваляў усё добрае.

Пасля гэтых падзей Шамдзін пачаў інакш глядзець на свет. Свет дабра і зла. Зло часцяком перамагае, ды не заўсягды. І на тым дзякуй. Дабро разумеюць усе людзі. Хай яны глухія, сляпыя, крывыя, багатыя, разумныя. Але калі яны людзі...

Шамдзін, як той сухі дол дажджы, убіраў у сябе ўсё, што наўкол адбывалася. І чамусьці з таго дня, калі зганьбілі маладуху, неўзлюбіў ён бяскрыўдную жывёліну — асла. Хоць кеміў, што не ў асле справа. Калі курда называюць сынам асла — гэта абраза, горшай за якую не бывае ў свеце. Відаць, нешта непрыемнае звязана з аслом у свядомасці людзей яшчэ з даўніны. Ці, можа, жаданне зваліць віну на вынослівую жывёліну.

І разам з тым калі курда называюць сукіным сынам, сабачым сынам, гэта гучыць як высокая пахвала. Нават самы куслівы сабака заслугоўвае ў курдаў пашану. Вось і разбяры, на чыім баку праўда.

Шамдзін быў перакананы, што чалавек мусіць заўсягды заставацца чалавекам, заўсягды трэба быць на вышыні. Ці, прынамсі, імкнуцца да гэтага. Не трэба спадабляцца аслу альбо сабаку. Бог стварыў іх для клопатаў асліных і клопатаў сабачых. Усё, зда-

валася, дужа проста, ды не ўсе цямілі гэта.

І прыснілася Шамдзіну, што па сонечных промнях прыйшоў старац і сказаў яму: «Ты ўжо дарослы і мусіш выбраць сабе дарогу». У сне Шамдзін стаяў на пярокрыжках і не ведаў, якой дарогай яму пайсці — шырокай ці вузкай. І сказаў сабе Шамдзін: «Я выберу сабе дарогу, калі ўпэўнюся ў сваёй праваце...»

Выбар — самае цяжкое і важнае ў жыцці. Сны не заўсягды праўдзяць, а пакідаюць шмат пытанняў і спараджаюць сумневы.

Назаўтра трапіў Шамдзін у варункі, дзе давялося адстойваць сваю праўату, свой гонар. Заспрачаліся, заказярэчыліся, счубіліся з ім сябры. Старэйшыя браты крыўдзіцеля замест таго, каб справядліва вырашыць спрэчку, як і належыць старэйшым ды разумнейшым, удвух навалiлiся на аднаго Шамдзіна ды збілі яго. Шамдзіну не балелі грымакі. Было балюча ад крыўды. Так балюча, аж узгадалася даўняя прыпавесць.

Б'юць курда, б'юць па твары, выцінаюць у грудзі, у жывот, а няшчасны крычыць, што яму баліць спіна. Раз'юшаныя байкі нечакана спыніліся ды пытаюцца, як гэта зразумець? Тады курд і адказвае: «Калі б у мяне за спіной мелася абарона, ніхто б не набраўся смеласці біць мяне ў жывот, а тым болей у твар».

Пасля бойкі ўпершыню Шамдзін з сумам успомніў свайго бацьку. І вырашыў, што не заўсягды на зло трэба адказваць злом. Няхай яму будзе балюча, але Вялікі Бог, што ў ім, абавязкова пераможа. Бацька сказаў яму некалі: «Не трэба караць зло злом. Няхай зло ляціць паўз цябе і разбіваецца аб камяні. Толькі й камянёў шкада, ды яны вытрываюць, на тое ж яны камяні. Дабром, адно дабром можна знішчыць зло». Тады й прысягнуў сабе Шамдзін: «Подласць і здрадніцтва — самыя горшыя чалавечыя ўчынкі. Няхай Бог, і толькі ён, карае тых, хто ходзіць крывымі дарогамі. Кожны дзее тое, на што ён здатны. Зло само выбірае сабе людзей. А я прысягаю сабе хадзіць па траве басанож, каб не прытаптаць ейныя зялёныя промнікі. Каб трава расла й памірала сама. Асцярожна буду ступаць па зямлі, без патрэбы не буду капаць яе лішні раз. У зямлі ж створанні Божыя жывуць. Не буду рваць кветку, пакуль можа яна жыць на сцяблінцы сваёй. Хай кветка нам аздобіць жыццё. Матылькі й птушкі, звяры й расліны Богам створаныя і маюць права на існаванне ў гэтым свеце. Не трэба лезці ў чужое жыццё. Гэта не па-боску. Берагчы жыццё трэба. Яно — дар Божы».

Калі Шамдзін пражыў гэтулькі, што болю стала болей, чымся асалоды, ён сказаў сабе: «Шмат даведаўся я ў жыцці, ды бываюць рэчы, прывыкнуць да якіх немагчыма. Калі чалавек мае лёс, яму цяжка змяніць яго. Калі ты ўпаў на дол, мусіш знайсці ў сабе сілы ўстаць на ногі. Ты мусіш жыць так, каб на цябе не паднялі руку. Ты мусіш імкнуцца да гэтага. Памкненне можа апраўдаць няўдачу. Узгадай, што ты не адзін на зямлі, й чыні ўчынкі свае добра. Бог стварыў людзей без шкодных звычак. Але барацьба дабра са злом вечная».

Шамдзін верыў, што, размаўляючы сам з сабой, ён шукае адказ, а адказ гэты ў ім самім, у яговых учынках, сябрах і блізкіх. І кожны з іх займае сваю жыццёвую прастору і будуе свой свет.

Шамдзін сказаў сабе: «Вось наш знакаміты багацей ведае, як яму бараніць сваю набыць. Прадаць авечак ён пасылае на рынак двух ворагаў, якія ненавідзяць адзін аднаго. Сачыць за імі не трэба пасылаць трэцяга. Самі гэта робяць. І доўга гэта давала плён. Ды ўрэшце здарылася тое, што й мусіла здарыцца. Звыкшыся, былыя ворагі пачалі змаўляцца. Як быццам багацей не разумеў, што могуць рабіць з людзьмі грошы. Туды, дзе з'яўляюцца грошы, спяшаюцца скваплівасць, зайздрасць, хцівасць, хіжасць. Мараль памірае лёгка і ціха. Знікаюць цывілізацыі, рушацца імперыі. Тое, што людзі ўзводзяць, ствараюць, самі ж і знішчаюць, не разумеючы гэтага...»

Шамдзін пражыў доўгае жыццё. Стаў старэйшым за свайго бацьку, старэйшым за цётку сваю Сінам. Шмат пражыў, а значыць, шмат перажыў. Ды да кораня жыцця так і не дапяў. Мудрасць да чалавека ідзе марудна. Занадта блізка сутыкнуўся Шамдзін з подласцю і здрадніцтвам і зразумеў, што ўжо не мае сілы падняцца на ногі, выпрастаць спіну, стаць на ўвесь рост. Разбурыўся падмурак, на якім стаяў дом духу яганага. Шамдзін упэўніўся, што чалавек не мусіць верыць нікому, акрамя Бога. Любові Бога хопіць на ўсіх. І Шамдзін зноў сказаў сабе: «Калі Богу дагодна, каб цябе прадалі й здрадзілі табе сябры, з якімі пражыў ты побач ды поплеч болей за палову жыцця свайго, дык і быць таму. Значыць, часам перамагае зло... Хоць і не заўсягды. Выходзіць, Бог бачыць і маўчыць, а калі маўчыць, значыць, згодзен. Спыніся і пагавары з Богам, які ў табе самім. Прыслухайся да яго. Гэтак казала цётка Сінам. Яна, бядачка, так і не змагла паляцець. А птушка, магчыма, была толькі зданню. Ды я верыў гэтаму, я птушку бачыў. Я верыў, што Бог, які ўва мне, мацней за чалавека. Калі Бог стварыў людзей, дык нехта ж мусіць за іх адказваць. Ды калі адны народы забіваюць іншых, гэта не па-боску, хоць і не дзеля хлеба надзённага робіцца гэта. Хлеба пакуль хапае на ўсіх. Сыць, відаць, мацней за голад. Яна спараджае хіжасць і бессаромнасць...

Чалавек уяўляе сябе зверхнікам лёсаў, бачыць сябе Богам. Бог трывае гэта ды паступова саступае месца сваё свайму ж тварэнню. Ды на гэтай зямлі нельга займаць не сваё месца. Альбо *калі ты яго зоймеш, мусіш аздобіць і* добраўпарадкаваць сваё аколіва, каб людзі бачылі, што ты на сваім месцы».

Памёр брат у Шамдзіна. Шамдзін сядзеў з ім уначы сам-насам. Здарылася так, што нікога на той момант болей не было. Ён ды брат. Узгадваючы цётку Сінам, Шамдзін запыніўся позіркам на нябожчыку і ўбачыў раптам, што да столі цягнуцца нейкія ледзьве ўлоўныя ніці. Пучок рознакаляровых ніцяў ішоў ад брата ў неба. Ніці рухаліся, й стваралася ўражанне, што гэта з брата выходзіць яганая душа. Гэта было нядоўга. Калі з'явіліся людзі, усё знікла... Ды Шамдзін верыў, што ён другі раз убачыў, як адыходзіць душа блізкага чалавека. Ці, магчыма, быў ён сведкам, як адыходзіць Бог ад чалавека?

Пасля смерці брата, перадумаўшы шмат, Шамдзін прыйшоў да высновы, што ўсяму свой час. І ў жыцці, і ў смерці. Радасць прыходзіць сама сабою. А потым, калі лёсу пажадаецца, прыходзяць і слёзы. Настае час, калі ўсё канчаецца. І тады думаеш пра тое, як завяршыць дні свае, бязрадасныя і цяжкія. Навошта дні й гады, калі яны не прыносяць радасці і асалоды? Тады ў чалавеку дабро не можа супрацьўляцца злу. І чалавек чахне, губляе свой твар, губляе сябе. Плынь падзей не запыніш...

Шамдзін казаў сабе: «Ты зрабіў усё, што мог. Ты любіў і кахаў, цябе любілі й кахалі. Ты мог і тварыў, Бог спрыяў табе. Людзі былі табе патрэбныя, і ты быў патрэбны людзям. Цябе прадалі людзі, якія складалі часціну твайго жыцця. А як можна пражыць часцінаю? Ты аддаваўся жыццю цалкам, дарэшты. І атрымаў рэшту. Толькі Бог ведае, колькі чалавеку атрымаць ад жыцця належыць. Дарагая цана за гэтыя веды».

На сёмы дзень пасля смерці брата Шамдзін не знаходзіў сабе месца. Урэшце ён рашыўся і падаўся да скалы. Да тае самае. Да скалы Сінам. Хоць скалу маглі б назваць імем бацькі — скалой Аўдала. Ды людзям усяго не ўталкуеш... Шамдзіну здавалася, што ўнутры нешта штурхае яго да вяршыні. Рабілася лёгка і вольна на душы. Ён узняўся на скалу і замёр на вышыні. А потым, звяртаючыся да сонца, да зямлі, да ўснежаных гораў, да рэчак-бястрацечак, да гожага недасяжнага далягляду, Шамдзін са смуткам сказаў:

— Божа! Я сын твой і сын народа свайго. Народа, які стварыў ты. Гэта народ-сірата. Не маю сілы болей супраціўляцца слёзам і гору. Дарога, якую выбраў я, была не самая лёгкая. Бачыў я, як адны твае сыны забіваюць іншых. Жорсткасць і забойствы сталіся звычнаю справай. Я йшоў па дарозе, якую ты паказаў мне, Усявышні, і толькі слёзы бачыў. Бачыў я тварэнні твае, з іх не ўсе я прыняў, шмат якія адрынуў. Зрэдчас радаваўся, а болей журыўся. Клопату мне хапала. Ад сівых вякоў да нашых дзён народ мой не знаходзіць свайго месца на тваёй зямлі, Валадар! А калі дзе й знаходзіць, вытурваюць яго разам з няхітрым рухмаццём... Народ мой як выгнанец жыве і верыць табе і ўсяму, што стварыў ты, Адзіны. Ты бачыш гэта. Ды чым болей народ мой верыць табе, тым меней радасці мае. Я — маленькі сучок з зялёнага дрэва народа майго. Боль і слёзы прывялі мяне да гэтае скалы. Тут скончаецца мая дарога. Усе дарогі вялі сюды. Госпадзе, я не самотны. Са мною горы і сонца, зямля і ты. Прыйдзі ж і забяры мяне ды ўсіх беспрытульных, — людзей і народы... Альбо я сам зараз жа палячу да цябе...

**Пераклад з курдскай Рыгора БАРАДУЛІНА**

# Каб душой ачуняць

## З ДАРОЖНЫХ ГУТАРАК

— Дзе ж гэта ёсць, каб так сябе не паважаць? Бог нам, як і іншым людзям, даў мову, вызначыў нас, як народ, а народ гэты сам сябе забівае. А самазабойства перад Богам — грэх страшэнны. Ці не таму і жывём абы-як, што выцураліся самі сябе? Гэта ж учора што пабачыла? У кніжнай краме, што на вуліцы Прытыцкага ў Мінску, усяго чатыры кнігі на роднай мове. Не стрымалася, пайшла да дырэктара. А ён кажа: выдавецтвы патрабуюць грошы наперад, так званай перадаплаты. Вось такая наша незалежнасць, вось дзе карані бездухоўнасці...

— Іншы кажа, што сурочаны ён, таму й няма ладу ў жыцці. Дык жа, калі яно гэтак, вазьмі ды пакайся перад Богам у грахах сваіх. Жыві праведна, чыста, дык нічога да цябе і не прыстане, усё абернецца на таго злыдня, які на цябе зло насылаў.

— Ай, з гэтымі неспрыяльнымі днямі людзі здурнелі! Пазначаюць іх, лекамі ратуюцца!.. А ў Бога ўсе дні роўныя. Хто з малітваю жыве, у чысціні запаведзяў Гасподніх, у міласэрнасці да іншых, таго не кране дзень неспрыяльны...

— Мабыць, праўда скора будзе канец свету, бо вельмі ж людзі ад Бога адарваліся. Колькі на сябе рукі накладаюць? Гэта проста жах! Як можа чалавек гэтак бяздумна аддаваць самы вялікі Божы дар — жыццё? Мяне мама вучыла любы камень з сэрца малітвай скідваць, у Царкве суцяшэнне знаходзіць. Я й цяпер тым баранюся...

— Не, не кажыце, дзеткі, — пасціцца трэба. Не пра чэрава трэба думаць, а пра душу. А душы ўстрыманне ўзвышэнне дае, ёй пост неабходны. Вось паспрабуйце пасты вытрымліваць, кожны дзень Евангелле чытаць, маліцца — самі пабачыце, які вынік будзе...

— Каб у мяне завялася якая лішняя капейка, я б яе патраціла на малітоўнікі, каб раздаць іх тым, хто не мае. Не толькі бедным, але і тым, хто грошай шкадуе на святое — няхай душой ачуняюць хутчэй...

— Надоечы папрасіла ў бацюшкі малітву, каб шанцавала ў гандлі, дык ён адказаў: "Малітва без міласэрнасці — як папера без тэксту. Свяціцель Іаан Златавуст раіў аднаму вяльможу атрымаць тое, што прасіў, наступным чынам: "Дай абет Богу паступаць па запаведзях Яго, потым напоўні рукі бедных ад імя твайго і, нарэшце, вер, што Бог дапаможа табе"...

— Мы, старыя, часам без развагі песцім унукаў, патураем не ў тым, у чым трэба. У школе, дзе мой унук вучыцца, рабілі музей пра тое, як даўней людзі жылі. Папрасілі бацькоў прынесці даўнейшыя рэчы, якія ў каго ёсць. Настаўніца, каб падахвоціць, пачала ставіць пяцёрку таму, хто нешта прынёс. От наш ёлуп і пачаў цягаць з дому, што можна і што няможна. Бацькі сварыліся на яго, а я — выгароджвала. Вось і давыгароджвала — нават самавар, мой пасаг, звалок у школу. Хацела пайсці ды забраць, але ж — грэх свайго сямейніка ганьбіць, хоць таму сямейніку й мала гадоў...

— Рэдка які мужчына можа жыць адзін. Хіба толькі ад Бога яму такое дадзена, ці ўжо зусім прапашчы, што нікому не патрэбны. А так цяперашнім мужчынам бабу падавай і пад бок, і ў нянькі. Жонку ўхайдокае і зноў жаніхаецца. Колькі цяпер п'яніц развялося, што ўсю кроў з жонак высмоктваюць? Жонкі сварацца ці не сварацца — усё роўна ўсе нервы гараць. П'яніца не паспагадае, не пашкадуе, яго сэрца жорсткае, чэрствае, бо там д'ябал сядзіць. У нас адзін, як жонка памерла, дык адразу ажаніўся. Не паспелі яшчэ ў нябожчыцы ногі астыць, як прывёў кабеціну з дзецьмі. Той трэба было хутчэй сваіх дзяцей чужым дабром на лад паставіць, бо дабра ўсякага шмат засталося — старанная гаспадыня была нябожчыца. Сваім дзецям мачыха спрыяла, а з яго сіраты здзекавалася, есці нават шкадавала, чужыя людзі падкормлівалі. І няйначай Бог паклапаціўся, не адкінуў дзяўчо тое, вельмі ж добра замуж уладкаваў. А яе дзеці шчасця не прыдбалі, сама дачасна памерла, а ён, ну мужык яе, з розуму выжыў, нічога не ведае, нікога не пазнае і не прызнае, як дзіця сваё не прызнаваў, на сваё імя нават не адклікаецца, хаты свае не знаходзіць, як з дому вылезе...

— А ў нас адзін вельмі ж круцель быў вялікі, з жонкі вачэй не спускаў, а сам за кожную спадніцу чапляўся, дома, як злодзей, усё палавініў, палюбоўніцы носячы. А цяпер Бог прачысціў яму мазгі. Тая прываротніца знячэўку памерла, а жонку спаралізавала. А ён цэрпіць, глядзіць яе. Вярнуўся да чалавека розум. Кажа, што гэта яму выкуп дае Гасподзь за грахі. Проста так нічога ў жыцці не бывае, за ўсё чалавек з ліхвой адплачвае...

— Ое-е-ей, як жа гэта дапамагчы людзям, растлумачыць, якая пагібель іх душам — аборты! Які ж гэта цяжкі грэх, як моцна карае Бог за яго! На сабе я адчула. Як зрабіла нявестка аборт, дык мне адразу прысніўся нябожчык бацька з дзіцяткам доле, пасярод дарогі, у яго пад нагамі. Бацька пагрозліва на мяне глядзіць і кажа: "Сама прыходзь нянчыць, што вы мне падкінулі!" Хварэлі многа мы ўсе, і я, і нявестка, і сын. Дзеткі маленькія часта ўсім сніліся. Пакуль не паспавядаліся, не прычасціліся. Палягчэла трохі, злітаваўся Гасподзь. Але — зноў бяда. Неспадзеўкі мама памерла. Ці не яе замест мяне забралі дзіцятка нянчыць? Душачка ж яго непрыкаяная ўвесь час блукае, бо ўжо ж тыдняў яму шмат было, плод быў сфарміраваны амаль... Ці выплачам, ці замолім свой жудасны грэх: жывы камячок дактары раскрамсалі, выскраблі з мацярынскага ўлоння?

— Іншы распінаецца, даказвае, што няма таго свету. А тыя ж, што памерлі, жывуць новым жыццём і ўсё пра нас ведаюць. Памерла мая цётка. Яна парцейная была, і дзяцей, як толькі тыя школу канчалі, у парцыю прыстроіла. Тое раней было, апошнім часам ад парціі сваёй адраклася, у царкву не хадзіла, бальшавіцкі гонар перашкаджаў, але дома малілася. Дзякуй Богу, не прапала тое, што маці яе, мая бабуля, перадала ёй. Мяне цётка не вельмі прызнавала, я бяднейшая, прасцейшая. Аднаму Богу вядома, чаму ён не дапусціў, каб я пайшла на пахаванне. Як толькі памерла яна, я захварэла. А без мяне ў царкву там ніхто не пайшоў, я ж толькі перадала стрэчанскую свечачку і ікону Ісуса Хрыста, Госпада нашага, з 90-м псалмам, каб паклалі ў рукі нябожчыцы. Дзякуй Богу, там усё так і зрабілі. І вось як толькі яе пахавалі, дык тэмпература ў мяне адразу спала, і ў тую ж ноч прыснілася яе хросная маці, мая стрыечная бабуля. Падышла да мяне, пацалавала і знікла. Хто не разумее, той можа палічыць сон гэты нявартым увагі. Аднаму Богу вядома, што ўсё гэта значыць. Я так думаю, што яна, мабыць, мне падзяку сваю выказвала, а можа, і просьбу яшчэ на далейшыя малітвы, бо хросная маці вельмі адказная перад Богам за сваіх хроснікаў. Болей, кажуць, чым родная маці...

— Праўда, мабыць, свет замагільны ёсць і пра нас там усё ведаюць. Хоць і кажуць, што на сны не трэба звяртаць увагі, але я лічу, што нельга не звяртаць. Прыснілася мне мама-нябожчыца і кажа: "Каця вам не жаліцца, але ёй вельмі кепска жывецца, мужык яе вельмі ж ёй веку ўкарочвае". Я адразу і паехала, пагасціла ў яе, нагледзелася, як гаруе яна, з п'яніцаю жывучы. Вышэйшую адукацыю чалавек мае, а сам не ведае, што вытварае. Асатанеў ушчэнт ад гарэлкі. А яна, гаротніца, цэрпіць, маўчыць, не выганяе яго. Як цвіначка стала. Кажа, што гэта ёй крыж такі, а ад крыжа грэх адракацца. Кажа, што яшчэ большы грэх ёй будзе, калі ён захлынецца ад гарэлкі. Кажа, каму, як не мне, ратаваць душу яго, бо легіёны чарцей на сабе п'яніца возіць. Так жо рада была майму прыезду, так рада! Паплакалі мы разам, што маці з таго свету турбуецца, Богу памаліліся, абедню ў царкве заказалі...

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**

# Новыя песні Старых Дарог

Часам бывае і так: сустрэнеш чалавека, а адчуванне такое, што ведаў яго даўно. Адкрыты, шчыры, ахвотна расказвае і пра сябе, але, бадай, ахвотней пра тых, хто працуе поруч. І гэты давер у душы тваёй выклікае адпаведную рэакцыю. Разумееш, што на субяседніка табе пашанцавала. І тым больш прыемна, калі субяседнікам гэтым з'яўляецца чалавек, надзелены ўвагай. Як Альберт Міхайлаў — намеснік старшыні Старадарожскага райвыканкама, з якім мяне нядаўна звялі журналісцкія сцежкі-дарожкі.

Ад Альберта Аляксеевіча шмат даведаўся, як ідуць культурныя справы на Старадарожчыне. Гэтыя ж пытанні і знаходзяцца ў полі зроку А. Міхайлава па службовым абавязку. Праўда, як хутка высветлілася, у няменшай ступені — па прызванні, бо Альберт Аляксеевіч — з людзей, па-сапраўднаму ўлюбёных у тую культуру, літаратуру, мастацтва.

Нарадзіўся тут жа, у Старых Дарогах. Размяняў шосты дзесятак гадоў. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут і Кіеўскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Працаваў у райкаме партыі, загадваў агульным аддзелам. І вось ужо 15 гадоў на пасадзе старшыні райвыканкама.

Яшчэ ў школе захапіўся паэзіяй. І сам узяўся за пяро. Друкаваўся ў студэнцкіх газетах, выступаў у раённым і абласным друку. Ды і цяпер прозвішча А. Міхайлава можна напаткаць на старонках газеты "Старадарожскія навіны". А яшчэ Альберт Аляксеевіч — адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў паэтаў Старадарожчыны "Арэскія вытокі" і "Росныя далі". У апошнім — яго падборка адна з найбольш вялікіх. А галоўнае — лепшая ў кнізе. Але ў асноўным гэта не звычайныя вершы, а вершы, якія сталі песнямі.

Усяго ж на музыку пакладзена звыш 20 вершаў А. Міхайлава. У асноўным мясцовымі кампазітарамі: Ігарам Завацкім і Сяргеем Валенцюкевічам. Дзве з іх апрацаваныпрафесійным кампазітарам Дзмітрыем Далгалёвым. Альберт Аляксеевіч знайшоў творчае паразуменне і з маскоўскім кампазітарам Леанідам Прахіным. Леанід Іванавіч — чалавек сталага веку, у гады Вялікай Айчыннай вайны быў механікам-вадзіцелем танка, у 1944 годзе прымаў удзел у вызваленні Старадарожчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўсё жыццё палюбіў беларускую зямлю. Гэтай любоўю прасякнута і песня "Старыя Дарогі", напісаная ім на вершы А. Міхайлава.

У песень А. Міхайлава шчаслівы лёс. Яны даўно сталі любімымі на роднай яму Старадарожчыне. Лепшыя ж хутка пераадолелі, калі можна так сказаць, раённае прыцягненне, загучалі на ўсю краіну. Першая вырвалася са старадарожскіх абсягаў вышэйзгаданая "Старыя Дарогі". Яна гучала ў папулярнай тэлевізійнай праграме "Землякі":

***Старыя Дарогі —***
***Куток мой спрадвечны,***
***Так сэрцу балюча***
***З табой у далечы.***
***Прытулак мой любы,***
***Сюды ўсё імкнуся,***
***І дзе б ні блукаў я, —***
***Дадому вярнуся!***

Гэтая ж тэлепраграма дала жыццё і песні "Старадаражанка" — вельмі лірычнай, аптымістычнай, напоўненай любоўю і да зямлі, і да дзяўчыны-землячкі: "Выйдзе раненька на ганак // І абмыецца расой, // Прыгажуня, як світанак, // Зіхаціць сваёй красой". Музыку напісаў І. Завацкі, апрацавала Ядвіга Паплаўская. У выкананні Я. Паплаўскай разам з Аляксандрам Ціхановічам песня "Старадаражанка" і расправіла свае крылы.

А ў студзені мінулага года ў праграме "Служу Айчыне", што рэгулярна выходзіць у эфір па Нацыянальным радыё, упершыню загучала песня "Трубі, труба" — плён супрацоўніцтва А. Міхайлава і С. Валенцюкевіча. Яна хутка стала любімай у салдат і афіцэраў беларускага войска. Можна пагадзіцца з думкай галоўнага рэдактара гэтай праграмы Анатоля Грушы, што песня "Трубі, труба" можа стаць "шлягерам у ботах". Для гэтага ёсць усе падставы. Музыка песні — маршавая, а словы такія, што самі "просяцца" ў салдацкі строй:

***Трубі, труба паходная,***
***Люблю салдацкі строй.***
***Квітней, краіна родная, —***
***Я абаронца твой.***
***Мы поплеч дружна крочым,***
***Над намі родны сцяг.***
***І нікуды не збочым, —***
***Свой выбіраем шлях.***

Але А. Міхайлаў не толькі паэт. І не толькі паэт-пееннік. Ён яшчэ і мастак. І гэта таксама даўняе захапленне. Афармляў Альберт Аляксеевіч і ўжо згаданыя зборнікі "Арэскія вытокі" і "Росныя далі". Цудоўны старадарожскі краявід, што ажыў дзякуючы таленту А. Міхайлава, упрыгожвае і вокладку зборніка вершаў юных паэтаў Старадарожскага раёна "Расінка".

Але для кіраўніка, калі ён, безумоўна, на сваім месцы, важна не толькі самому праявіць сябе як мага лепш, а і наладзіць працу належным чынам тых, за каго ён, так сказаць, у адказе. І тут А. Міхайлаў на вышыні. У галіне культуры справы на Старадарожчыне ладзяцца. Важна і тое, што і сам Альберт Аляксеевіч, і загадчык раённага аддзела культуры Аляксандр Галота імкнуцца, каб развіваліся не толькі традыцыйныя віды мастацтва (Старадарожчына, для прыкладу, славіцца сваім ткацтвам), а пры гэтым знаходзіла працяг тое, што характэрна менавіта для гэтага кутка.

Так, у прыватнасці, нарадзіўся тэатр народнай гульні "Старадарожская лясёнка". А лясёнка — прыстасаванне, пры дапамозе якога пераносяць траву, розны ўраджай. Добрая слава ідзе і пра дзіцячы харэаграфічны ансамбль "Расінка". Расінка, як вядома, памяншальнае ад слова раса. Але ў дадзеным выпадку маецца на ўвазе не вільгаць, а старажытная назва ракі Арэсы, якая працякае і па Старадарожчыне.

Можна шмат яшчэ гаварыць пра добрыя справы старадарожцаў на культурнай ніве. І абавязкова пры гэтым будзеш згадваць прозвішча Міхайлава — чалавека, які талентам шматгранна валодае сам і робіць усё дзеля таго, каб талент раскрываўся ў іншых.

**Барыс ЛАЗУКА**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### РАМПА

**Беларускія тэатры пакрысе адкрываюць тэатральныя сезоны.**

#### НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ОПЕРЫ

*10 верасня* — "Кот у ботах" для дзяцей.

*14 верасня* — "Віват опера!", гала-канцэрт зорак беларускай сцэны.

*24 верасня* — дзіцячая пастаноўка "Пітэр Пэн".

*28 верасня* — "Князь Ігар" Барадзіна.

*30 верасня* — "Севільскі цырульнік" Расіні.

*1 кастрычніка* — "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага.

*3 кастрычніка* — "Аіда" Вердзі.

*5 кастрычніка* — "Набука" Вердзі.

*7 кастрычніка* — "Паяцы" Леанкавала.

*10 кастрычніка* — "Іяланта" Чайкоўскага.

*12 кастрычніка* — "Кармэн" Бізэ.

*14 кастрычніка* — "Чыо-Чыо-сан" Пучыні.

#### МАЛЫ ТЭАТР

*14 верасня* — "Камедыя" ў памяшканні Дома афіцэраў.

*19 верасня* — там жа "ART".

*21, 27 і 28 верасня* — у клубе імя Дзяржынскага прэм'ера трылера "Дотык" Патрыка Марбера. Рэжысёр — Мікола Пінігін, мастак-пастаноўшчык — Зіновій Марголін, у ролях — Сяргей Журавель і Ігар Забара.

#### ПРАЕКТ "ВІРТУОЗЫ СЦЭНЫ"

*8 верасня* — "Дурнотнае каханне" ў клубе імя Дзяржынскага.

*23 верасня* — там жа "Жудасныя бацькі".

#### ТЭАТР-СТУДЫЯ КІНААКЦЁРА

*14 і 15 верасня* — "Апошняя жанчына сеньёра Хуана".

*19 і 20 верасня* — "Выкраданне Алены".

*21, 22 і 23 верасня* — "Філумена Мартурана".

*26 і 27 верасня* — "Мы ідзём глядзець "Чапаева".

*28 і 29 верасня* — "Таленты і прыхільнікі".

*30 верасня* — "Тэатр купца Япішкіна".

#### ТЭАТР "ЗЬНІЧ"

*12 верасня* — дабрачынны спектакль "Выгнанне ў рай" пра Рагнеду. Сродкі ад продажу квіткоў пойдуць на ўсталяванне ў Чырвоным касцёле пажарнай сігналізацыі. Калі гэта не будзе зроблена, эксплуатацыя касцёла можа быць прыпыненая.

### ВЫСТАВЫ

Да *15 верасня* ў Нацыянальным мастацкім музеі працуе выстава кітайскага жывапісу і графікі.

Да *9 верасня* ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва можна паглядзець выставу ўкраінскіх мастакоў Ровеншчыны "Зямля Пагарыння" (ад ракі Гарынь, што цячэ таксама і па тэрыторыі Беларусі).

З *31 жніўня* — па ўвесь верасень у Музеі культуры і гісторыі Беларусі дзейнічаюць ажно 3 выставы твораў сяброў фотаклуба "Мінск". Можна пабачыць здымкі ажно 19 стагоддзя.

### ЭКРАН

#### Беларускае тэлебачанне

*8 верасня, 15.30* — дакументальныя фільмы, прысвечаныя гісторыі Нясвіжа "Гаспадыня Нясвіжа" і "Нясвіжскі фарны".

*8 верасня, 17.35* — "Шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея". Знаёмства з лёсам і творамі Валенція Ваньковіча.

*9 верасня, 9.25* — "Сёння з вамі...". У гасцях — дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Леанід Хадкевіч.

*11 верасня, 13.10* — да 80-годдзя Купалаўскага тэатра пакажуць спектакль У. Бутрамеева "Страсці па Аўдзею".

*14 верасня, 16.30* — "Малітвамі ўсяленскай заступніцы". Перадача пра адкрыццё ў Мінску праваслаўнага прыходу ў гонар Абраза Божай Маці "Невыпітная чаша".

*15 верасня, 14.25* — "Арт-клуб" з заслужанай артысткай Беларусі Людмілай Корхавай

### UR'IA НАБІРАЕ РАЗГОН

Здаецца, беларусы сур'ёзна захапілі расейскі музычны рынак. За расейскамоўнымі ЛЯПІСАМ ТРУБЯЦКІМ і ЛЕПРЫКОНСАМІ на Усход рушыў і новы праект Юрася Выдронка (былы удзельнік ПАЛАЦА і КРЫВІ) UR'IA. Ужо падпісаны кантракт на супрацоўніцтва з фірмай АРІЯrecords, у межах якога ў бліжэйшы час будзе выданы мультымедыйны кампакт-дыск "Вяснačуха", на якім, акрамя музыкі гурта, вы знойдзеце фота, відэа, інтэрв'ю і шмат іншага з творчасці гурта. У пачатку кастрычніка каманда паедзе з гастролямі ў Польшчу, а пасля ў Нямеччыну. Мы ж зможам убачыць UR'IA 29 верасня ў "Парк-клубе Мінск" (парк Чалюскінцаў) на другой часцы прэзентацыі альбома "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА".

### "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ" — ПРАЦЯГ БУДЗЕ

BMAgroup рыхтуе правядзенне ў верасні — кастрычніку вялікага тура прэзентацыі альбома "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА". Склад і месца высадкі беларускага рок-дэсанта ўзгадняюцца. А пачнецца тур 29 верасня ў "ПАРК—КЛУБЕ МІНСК" (парк Чалюскінцаў), дзе з 17.00 да 22.00 пройдзе другая частка прэзентацыі альбома "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА" з удзелам: ZET, ТРОІЦА, НОВАЕ НЕБА, UR'IA, EXIT, HAPPI FACE (Маладечна), БЕЗ БІЛЕТА, LONG PLAY. Спецыяльныя госці: АКРУГА ВОЛЬНАГА МАСТАЦТВА (Магілёў) і пераможца "БАСОВІШЧА-2000" гурт POSTSCRIPTUM. Кошт квітка 1500 БРБ. За столікамі 2500 БРБ. Студэнтам і набыўшым альбом "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ" — скідкі! Кожнаму прыйшоўшаму на канцэрт — скідка на начную дыскатэку!!! Дадатковая інфармацыя: 2118585 (аб.6783) і 2841399.

Для жадаючых аказаць дапамогу і запрасіць БМА ў госці: 220085 Мінск а/я 5. Чакаем!

### АЎТЭНТЫЧНЫ ФАЛЬКЛОР ЖЫЎЦОМ

*27 верасня* ў Беларускім тэатры юнага гледача (Энгельса, 24) пройдзе прэзентацыя новага альбома фольк-гурта "ЛІЦЬВІНЫ" — "Ой, у лузе, лузе...". Пачатак канцэрта а 19.00. Даведкі па тэл. 2271532.

## У Доме літаратара

**12 верасня** ў вялікай зале Дома літаратара адбудзецца творчая юбілейная вечарына Галіны Каржанеўскай — паэта, публіцыста, драматурга.

*Пачатак а 18-ай гадзіне.*

**14 верасня** ў чытальнай зале Універсітэта культуры адбудзецца літаратурная сустрэча, прысвечаная 60-годдзю пісьменніка Генадзя Тумаша.

*Пачатак а 15-ай гадзіне.*

## Беларускі калегіум

**Абвяшчае набор студэнтаў**
**на дадатковае бакалаўрскае/магістарскае навучанне па спецыялізацыях:**

**журналістыка;**
**найноўшая гісторыя;**
**філасофія/літаратура** (праграма навучання прадугледжвае спецыялізацыі: "пераклад літаратуры па сацыяльных навуках", "мультыкультуралізм").

Пачатак заняткаў з 1 кастрычніка 2000 г. Цыкл навучання — тры гады, з нададзеннем па выніках навучання ступеняў бакалаўра і магістра. Сертыфікат Беларускага Калегіума (БК) не замяняе дыплом аб вышэйшай адукацыі. Прымаюцца студэнты старэйшых курсаў гуманітарных спецыяльнасцяў альбо асобы з вышэйшай адукацыяй. Залічэнне адбываецца па выніках анкетавання і сумоўя. У выключных выпадках прымаюцца і студэнты малодшых курсаў. Навучэнцамі БК могуць быць толькі асобы, што пастаянна альбо на час вучобы пражываюць у Мінску.

Лекцыі ў БК — адкрытыя. Асобы, якія не з'яўляюцца студэнтамі, але сістэматычна наведваюць лекцыі, рэгіструюцца як вольныя слухачы.

Навучальныя праграмы Калегіума не дублююць існуючыя праграмы дзяржаўных і недзяржаўных універсітэтаў. Навучанне ў БК — бясплатнае.

**Запіс абітурыентаў — па 20 верасня г.г. па тэл. 220-63-36 з 14.00 да 18.00 штодня, акрамя суботы і нядзелі.**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 7.09.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4637.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12